


№ 1-2(18-19)
Студзень 2004 года

# Краязнаўчая газета

## У нумары:






*Віншуем!*

Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ўжо 75 гадоў. За гэты час тут працавалі і рухалі беларускую навуку сотні выдатных спецыялістаў. Многія сённяшнія супрацоўнікі НАН Беларусі – добрыя сябры "Краязнаўчай газеты" і Беларускага фонда культуры. Іх ды іхніх калегаў мы віншуем з цудоўным юбілеем! Будзем разам спасцігаць родны край!

*Рэдакцыя "КГ"*

*Пытанне з нагоды*

## Будзе... па-шляхецку?

П'еса "Пінская шляхта" В. Дуніна-Марцінкевіча (напісаная ў 1866 годзе, апублікаваная толькі ў 1918-м) – адзін са славутых твораў аўтара і ўсёй беларускай драматургіі. Але літаратурныя крытыкі, тэатральныя рэжысёры ў пэўныя перыяды тлумачылі яе па-свойму і па-рознаму: то з рэвалюцыйных пазіцый падкрэслівалі хабарніцкія ўчынкі царскіх чыноўнікаў накшталт Кручкова, Пісулькіна і антынародную, паслужніцкую сутнасць беларускай шляхты, то змяншалі выкрыванне першых і асноўны акцэнт пераносілі на апошнюю як не толькі на выраджэнцаў, але і ўвогуле на нікчэмнае саслоўе, то... Карацей, яшчэ і цяпер ёсць праблемы трактоўкі гэтага твора, напісанага неўзабаве пасля задушэння паўстання К. Каліноўскага, калі кручковым была поўная воля, а лепшыя з нашай шляхты былі знішчаныя ці сасланыя ў Сібір...

Нядаўна ў Пінску па-свойму вырашылі ўшанаваць п'есу і яе аўтара – адкрылі рэстаран "Пінская шляхта", дзе аздоба, стравы, музыка, сервіроўка стала і апратка афіцыянтаў у шляхецкім стылі мінулых часоў. Дэкор, безумоўна, цікавы, патрэбны. Пытанне толькі ў іншым: а як цяпер з лепшымі традыцыямі былой і сённяшняй сапраўднай шляхетнасці? Зразумела, гэтыя пытанні не толькі для пінскіх улад, іхняе вышэйпамянёнае рашэнне можна толькі вітаць.

## Што чытаюць?

### Дзень БФК і "Краязнаўчай газеты" на Пухаўшчыне

У снежні мінулага года ў Мар'інай Горцы адбыўся семінар бібліятэкараў раёна. Адзін дзень заняткаў быў прысвечаны знаёмству з дзейнасцю ГА "Беларускі фонд культуры" і заснаванай ім "Краязнаўчай газеты".

Старшыня БФК Ул. Гілеп расказаў пра гісторыю стварэння арганізацыі і пра яе праграмы – "Вяртанне" (выяўленне ў краіне, за мяжой, вопіс архіўных матэрыялаў, каштоўнасцяў і, па магчымасці, вяртанне на радзіму вывезенага), "Славутыя імёны Бацькаўшчыны" (выданне кніг пра нашых знакамітых і, на жаль, сёння малавядомых людзей, якія зрабілі вялікі ўклад у дзяржаўную справу, у нашу навуку і культуру), пра ілюстраванае перавыданне на беларускай і іншых мовах кніг, якія складаюць гонар усяго чалавецтва, – "Яўгеній Анегін" А. Пушкіна, "Пан Тадэвуш" А. Міцкевіча, "Новая зямля" Я. Коласа. Старшыня БФК таксама спыніў сваю ўвагу на іншых клопатах сённяшняга дня ў духоўным жыцці, у справе захавання і рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры, расказаў пра новыя праекты. Намеснік старшыні ГА БФК Л. Бароўскі расказаў пра тую работу, якая праводзіцца ў краіне і за мяжой у галіне музыкі і мастацтва. Намеснік галоўнага рэдактара "Краязнаўчай газеты" Г. Далідовіч падзяліўся думкамі пра стан сённяшняй літаратуры, часопісаў і выдавецтваў, запыніўся таксама на творчых клопатах, звязаных з новым выданнем, адзначыў вялікую работу, якую праводзяць у краязнаўстве, у напісанні твораў і іх выданні ўраджэнцы Пухавіцкага раёна, сярод якіх два сябры рэдкалегіі "КГ".

Сваімі думкамі пра шматлікія пытанні культуры, бібліятэчнай, музейнай справы падзяліліся гаспадары-пухаўчане: дырэктар Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Т. Лабастава, дырэктар краязнаўчага музея А. Прановіч, загадчык аддзела культуры раённага выканаўчага камітэта Я. Сушко. Выступоўцы адказалі на шматлікія пытанні супрацоўнікаў бібліятэк раёна, падаравалі раённай бібліятэцы новыя выданні БФК.

*Памяць пра традыцыі*

## Дзе прайшлі калядоўшчыкі...

З песнямі, скокамі ды жартамі ўславілі Хрыстовы Народзіны дзеткі з фальклорнай студыі "Верас", што працуе ў Нацыянальным цэнтры дзіцячай творчасці. Разам са сваёй кіраўніцай Таццянай Пладуновай яны падрыхтавалі абрад калядавання, з якім напярэдадні навагодніх святаў і прайшлі па доме творчасці. Прайшлі дзеці па метадычных кабінетах, схадзілі да супрацоўнікаў бухгалтэрыі, завіталі на мясцовую тэлестудыю, не абмінулі намесніка дырэктара ды справаводаў, надалі святочна-ўзнёслага настрою спевамі, праходзячы калідорамі. Прычым адоравалі малечу не толькі гаспадары кабінетаў, куды заходзілі калядоўшчыкі, але і мінакі.

Дзеці, якім ад пяці да дзесяці гадоў, паказалі дарослым, як можна самім сабе стварыць свята (пра што часта гаворым), як можна традыцыі продкаў зрабіць блізкімі і сучаснымі.

Потым жа старэйшыя навучэнцы дома творчасці падрыхтавалі калядоўшчыкам свой падарунак. Удзельнікі батлейкавага тэатра "Калядня", якім кіруе Аўгіння Ліс, паказалі традыцыйную містэрыю пра Хрыстовы Народзіны ды інтэрмедыі пра жыццё ў пазамінулым стагоддзі, дзе галоўнымі героямі сталі, так бы мовіць, прадстаўнікі розных слаёў ды нацыянальнасцяў Беларусі. Чарговы раз гледзячы тыя немудрагелістыя сцэнкі, суперажываеш з іх героямі, смяешся з нейкіх іх учынкаў... Бадай, за паўтара стагоддзі (ды й болей) людзі змяніліся не моцна. Як і не змянілася іхняе стаўленне да вялікага свята –Хрыстовых Народзінаў.

А тое, што ўсё больш дзяцей звяртаецца да традыцыяў продкаў, проста ўсяляе надзею на неўміручасць народнага духу.

*Уладзімір ПУЧЫНСКІ*

**Навіны з Магілёўшчыны**

## Ствараецца асацыяцыя

На рабочай нарадзе краязнаўцаў з мястэчак Магілёўшчыны, якая адбылася ў Бялынічах, вырашана прадоўжыць працу па стварэнні асацыяцыі краязнаўцаў малых мястэчак Магілёўшчыны.

Прадстаўнікам ГА "Бялыніцкае краязнаўчае таварыства" было даручана распрацаваць праект статута асацыяцыі, давесці яго да зацікаўленых асоб і грамадскіх ініцыятыў, што дзеяць на тэрыторыі вобласці.

У рабоце нарады прынялі ўдзел краязнаўцы Шклова, Мілаславічаў (Клімавіцкі раён), Глуска і Бялынічаў.

## Музею – імя яго стваральніка

Па ініцыятыве рады ГА "Бялыніцкае краязнаўчае таварыства", дырэктара Галоўчынскага краязнаўчага музея, удзельнікаў Гузаўскіх мемарыяльных чытанняў (5 верасня 2001 года) дэпутаты Галоўчынскага сельсавета прынялі рашэнне аб наданні Галоўчынскаму краязнаўчаму музею імя яго заснавальніка і першага дырэктара – вядомага бялыніцкага краязнаўца Васіля Дзмітрыевіча Гузава.

## Выбрана кіраўніцтва. Вызначаны задачы

У адпаведнасці з патрабаваннямі статута грамадскага аб'яднання "Бялыніцкае краязнаўчае таварыства" праведзены справаздачна-выбарчы сход сяброў таварыства.

Са справаздачным дакладам выступіў старшыня рады Міхась Карпечанка, з дакладам рэвізійнай камісіі ўдзельнікаў сходу пазнаёміла яе старшыня Святлана Войлакава.

У спрэчках па справаздачным дакладзе ўзялі ўдзел сябры ГА БКТ Міхась Радоўскі, Васіль Цыркуноў, Ала Войлакава.

Дзейнасць рады грамадскага аб'яднання мясцовых краязнаўцаў за справаздачны перыяд прызнана здавальняючай.

Сход сяброў таварыства зацвердзіў план дзейнасці на 2004 год.

Таксама выбраны склад рады ГА БКТ (Ала Войлакава, Міхась Карпечанка, Анатоль Марозаў, Міхась Радоўскі, Васіль Цыркуноў), рэвізійная камісія (Генадзь Лапо, Святлана Віннікава, Святлана Войлакава). Старшынёй рады грамадскага аб'яднання "Бялыніцкае краязнаўчае таварыства" выбраны Міхась Карпечанка.

## "Бялыніцкі сшытак", выпуск № 2

Пры дапамозе Магілёўскай грамадскай супольнасці "Медыя" пад эгідай ГА "Бялыніцкае краязнаўчае таварыства" пабачыў свет другі выпуск "Бялыніцкага сшытка" – зборнік "Нітка часу бясконцая".

Складальнік яго Н. Палоннік распавядае аб мясцовых майстрах ткацтва, вышыўкі і вязання.

*Рада ГА БКТ*

**Прадаўжальнікі традыцый**



Уладзімір Сасноўскі – нашчадак даўняй ганчарскай дынастыі ў Івянцы, што на Валожыншчыне. Ён паспяхова падтрымлівае колішнюю славу старажытнага ганчарнага асяродка.

Уладзімір працуе ў ганчарнай майстэрні пры музеі імя Ф. Дзяржынскага, навучае рамяству мясцовую дзятву, прыводзіць у захапленне сваім майстэрствам заезджых турыстаў. Ці тое двухсантыметровы гаршчок, ці тое метровы збан – усё падуладнае майстру. Ён – лаўрэат і дыпламант розных конкурсаў і выстаў, прыняты ў Беларускі саюз майстроў народнай творчасці.

*Яўген САХУТА*

## Авалодваем японскай мовай

Японская мова для нас своеасаблівая і вельмі далёкая. Канечне, яе лепш засвоіць блізкім суседзям Краіны Узыходзячага Сонца. Але калі асмеліцца, зажадаць, то можна і нам, як у свой час нашаму земляку І. Гашкевічу, які быў паслом Расійскай імперыі ў Японіі, многае вывучыць, у тым ліку і японскую мову.

Узор таму – прыклад, які адбыўся летась у Доме дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі ў межах Дзён культуры Японіі ў нашай краіне: знайшліся сярод нас ахвотнікі, руплівцы, якія ўзялі ўдзел нават у конкурсе "Магія слова" па авалоданні японскай мовай. Зразумела, найперш спаборнічалі студэнты Мінскага лінгвістычнага універсітэта, але да іх далучыліся і студэнты БДУ. І не толькі ўзялі ўдзел, але студэнтка БДУ Марыя Астроўская стала пераможцай. Яе перамогу прызналі не толькі студэнты-калегі, перакладчыкі, але і супрацоўнікі японскага пасольства. Узаемасувязі пашырацца і паглыбяцца з новай акцыяй – будучым правядзеннем Дзён Беларусі ў Японіі.

**Радасна-заклапочаныя весткі**

## Школа адрадзілася

Гэтая падзея адбылася перад самым Новым годам у Хойніцкім раёне: там, у Стралічаве, зноў пачала дзейнічаць школа, якая раней перапыніла дзейнасць у сувязі з адсяленнем люду ў іншыя, больш чысцейшыя ад чарнобыльскага забруджвання рэгіёны, зведала звычайнае запусценне.

З цягам часу ў вёску пачалі вяртацца жыхары – канечне, дзякуй Богу, з дзецьмі і ўнукамі, якіх дзеля пачатку і працягу вучобы прыходзілася падвозіць у хойніцкую СШ № 2.

Тое, што амаль 200 вучняў могуць вучыцца ў сваёй вёсцы, спазнаваць з іншымі і родную мову, культуру, гісторыю, быць патрыётамі Богам дадзенага ім краю, – выдатна. Ды чалавечая турбота: а як будзе з іхнім здароўем, будучыняй?

Нам хацелася б атрымаць новыя весткі з тых цудоўных беларускіх мясцін.

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63320** (індэкс выдання)

***Краязнаўчая газета***

Колькасць камплектаў

на 200 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63320** (індэкс выдання)

ПВ | месца | літар

***Краязнаўчая газета***

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

на 200 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

***Паважаныя дырэктары школ, іх намеснікі, а таксама настаўнікі! Студэнты І курса Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры кафедры музеязнаўства сумесна з гісторыка-краязнаўчым таварыствам «Этна» шукаюць памяшканне для арганізацыі школьнага музея памяці загінулых падводнікаў на АПЛ «Курск» (тым больш, што на борце былі беларусы).***

Студэнты ставяць сваёй мэтай выхаванне самасвядомасці і патрыятызму сярод вучняў сярэдніх школ, ушанаванне памяці загінулых падводнікаў. У музеі можна будзе праводзіць экскурсіі і заняткі па сусветнай гісторыі і гісторыі Беларусі. Акрамя таго, плануецца зрабіць асобную экспазіцыю, прысвечаную Другой сусветнай вайне, ваеннай тэхніцы таго часу. Экспанаты для школьнага музея ўжо сабраны і гатовы для паказу.

Гісторыка-краязнаўчае таварыства «Этна» таксама праводзіць краязнаўчыя факультатывы для дзяцей, на якіх можна будзе азнаёміцца з помнікамі беларускай культуры, гісторыі і архітэктуры. Праводзяцца розныя віктарыны і конкурсы, прысвечаныя знаёмству з беларускай спадчынай. Па жаданні можна будзе арганізаваць для школьнікаў экскурсію па помніках горада Мінска. Моладзь павінна ведаць сваіх герояў!

Чакаем вашых прапаноў для супрацоўніцтва. Кантактныя тэлефоны: 241 86 08 (Раман), 264 12 38, 8 029 776 24 35 (Павел).

*Раман КРЫЦУК,*
*студэнт І курса*
*БДУ культуры,*
*сябар ГКТ «Этна»*

**Дзякуй даўнім і новым сябрам нашай газеты! У студзені нас стала болей. То будзьма разам і надалей. Каб разам пашыраць нашую сябрыну, нагадваем, што падпісацца на "КГ" можна з любога месяца. Давайце не губляцца ў вялікім свеце сучаснай мітусні!**

Падпісныя індэксы:
індывідуальны – 63320, ведамасны – 633202.

*"... І дзякуй скажа родны край".*

# Уладзімір ЛІЎШЫЦ: «Музею і газеце ісці заўжды поруч...»



*19 снежня 2003 года Горацкаму гісторыка-этнаграфічнаму музею спаўняецца 85 гадоў з дня заснавання. І 15 гадоў з моманту адраджэння і «другога жыцця». А ўдыхнуў яго наш славуты краязнаўца, гісторык і літаратар, кандыдат філасофскіх навук, прафесар Уладзімір Ліўшыц. У нашых Горках пры жыцці чалавек-легенда.*

*Вось з ім, бацькам адроджанага, вернутага да «другога жыцця» раённага музея, замацаваўшага за сабой нішу аднаго з вядучых культурных цэнтраў вобласці, размова журналіста мясцовай газеты.*

**– Музей – гэта жывая сувязь часоў. І пакуль будуць музеі, гэта нітка сувязі не парвецца ніколі. А Вы, паважаны Уладзімір Маісеевіч, і ёсць менавіта той чалавек, які здолеў звязаць гэтыя два канцы адной, некалі перарванай, нітачкі і тым самым не далі забыцца пра нашу гісторыю, злучылі мінулае і сучаснае. А вядома ж, без мінулага няма будучыні. Такім чынам, Вы працуеце менавіта на будучыню...**

– Дзякуй за такую адзнаку маёй ролі ў аднаўленні дзейнасці Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея. Хачу сказаць, што гэта было б немагчыма без падтрымкі раённай улады – тагачасных першага сакратара Горацкага гаркама КПБ Г. С. Яскевіча і сакратара гаркама Н. Г. Ануфрыевай, старшыні гарвыканкама В. Я. Рэндава, якія прынялі пастанову аб стварэнні ў горадзе на базе адміністрацыйнага будынка вузла сувязі дзяржаўнага гісторыка-этнаграфічнага музея. На працягу трох гадоў пад кіраўніцтвам загадчыка аддзела культуры Р. Я. Макеева, яго намесніка А. Д. Храмянкова будаўнікамі Горацкага ПРБУ (начальнік М. М. Нікіценка) быў праведзены капітальны рамонт будынка і зроблены стэнды для музейнай экспазіцыі.

Дзякуючы ім, гэтым людзям, 1 лістапада 1988 года музей адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў. Але не ўсё было так проста. Калі паўстала пытанне аб фарміраванні штатаў музея, эксперт Міністэрства культуры, пабываўшы на месцы, не даў згоды на той падставе, што горад не мае сваёй гісторыі і будзе дубліраваць музей акадэміі. Першы сакратар ГК КПБ Г. С. Яскевіч на гэта адказаў: «Горкі не здаюцца. Музей будзе. Зробім на грамадскіх пачатках!» А калі праз год эксперт Міністэрства ўбачыў экспазіцыю, падняў рукі: «Здаёмся!» А яшчэ праз год гарвыканкам перадаў аддзелу культуры і будынак магазіна «Культтавары» для адкрыцця карціннай галерэі.

Як даведаўся, што менавіта сёлета музею спаўняецца 85 гадоў? Прызнацца, мелі намер адзначыць 15-годдзе з пачатку яго заснавання. А тым часам у Маскве выйшла кніга нашага знакамітага земляка Льва Разгона «Учора і заўчора» – дзённік успамінаў пісьменніка пра Горкі, напісаных ім у ГУЛАГу. З гэтай кнігі даведаўся, што ў 1918 годзе з маёнтка Раманава (сёння Леніна) у Горкі было перавезена шмат мастацкіх каштоўнасцяў, якія і склалі экспазіцыю заснаванага тут музея. Далейшы лёс яго мне невядомы, але ж факт застаецца фактам: першакрыніца дазволіла ўстанавіць дакладную дату яго заснавання.

**– Сёння, аднак, Уладзімір Маісеевіч, больш важны не столькі ўзрост музея, колькі сам факт яго ўплыву на культурнае жыццё горада і раёна. І, як мне здаецца, тое, што зроблена гэтай установай за 15 гадоў дзейнасці, іншаму і за век здасца не пад сілу... Адна энцыклапедыя зямлі Горацкай – кніга «Памяць» чаго вартая!**

– Гэта заслуга не толькі калектыву музея, а ўсяго шырокага няштатнага актыву аднадумцаў. І як тут не ўспомніць пра выдатнага краязнаўца светлай памяці Ілью Маісеевіча Стэльмашонка! Ён падрыхтаваў амаль цэлы раздзел, прысвечаны перыяду Вялікай Айчыннай вайны, складзены з яго артыкулаў і ўспамінаў ветэранаў. Шмат дапамаглі нам пры жыцці В. Т. Гулевіч, былая партызанка і кіраўнік музея СШ № 3, загадчык музея Горскай СШ Р. Л. Мірончыкава, ганаровы прафесар БДСГА А. М. Багамолаў, дацэнт кафедры гісторыі і культуралогіі Г. Я. Каданчык і многія іншыя.

**– Вакол музея – шмат яго дачэрніх філіялаў у раёне, акрамя таго, тры мастацкія аб'яднанні, якія носяць званні народных. Літаратурнае – «Роднае слова», мастацкае – «Мастацтва», народных промыслаў – «Лазінка». Гэта ж усё – па Вашай ініцыятыве і пад Вашым патранажам. З выдання першага паэтычнага зборніка Ніны Кавалёвай, здзейсненага пры Вашай падтрымцы, пачалася і выдавецкая дзейнасць Ліўшыца, бо музей атрымаў на гэта ліцэнзію. Цяпер за Вашай дапамогай звяртаюцца нават некаторыя сталічныя паэты. А колькі Вамі напісана кніг?**

– З часу сваёй першай публікацыі ў раённай газеце «Ленінскі шлях» у 1968 годзе мною напісана каля 600 артыкулаў, многія з іх пакладзены ў аснову 50 выдадзеных кніг і брашур. Большасць з іх прысвечана гісторыі Горак і акадэміі.

А калі ў 1993 годзе музей атрымаў ліцэнзію на кнігавыданне, з таго часу выйшла больш за 50 кніг – паэзія, гістарычныя і літаратуразнаўчыя працы. Рыхтуецца да выдання зборнік паэтаў нашага літаратурнага аб'яднання «Роднае слова», а таксама кніжка, прысвечаная 60-годдзю вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З набыццём камп'ютэра самі робім арыгінал-макеты, а выдаём кнігі ў аршанскай друкарні або на рызографе ў акадэміі. Сродкамі дапамагаюць райвыканкам, спонсары, за што ім вялікі дзякуй.

**– Калектыў музея невялікі, але вельмі творчы і працавіты...**

– ... І хацеў бы дадаць, што стабільны не толькі кадравым саставам, а і плёнам. Пачынаў разам з М. М. Студнёвай, былой захавальніцай фондаў, якая потым узначаліла раённую бібліятэку імя М. Гарэцкага, С. С. Скаромнай і В. В. Белавусавай – старшымі навуковымі супрацоўнікамі. Затым прыйшлі на працу Т. А. Драздова, Т. В. Поклад, якая зараз працуе ва ўпраўленні адукацыі райвыканкама, некаторыя іншыя. Усім ім вельмі ўдзячны за добрасумленнасць і працавітасць, вернасць музейнай справе. За гэта ж наша агульная ўдзячнасць загадчыкам сельскіх філіялаў: у Маслаках – былому ўжо, ганароваму ветэрану І. Е. Мядзведзеву і цяперашняму – Л. І. Шылавай, у Аўсянцы – Н. М. Петрусенка.

Да 1993 года музей разам з навукоўцамі Інстытута гісторыі АН Беларусі А. Мяцельскім праводзіў археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Горацкага раёна. У выніку раскопак фонд музея папоўніўся вельмі каштоўнымі рэчамі. Вялікую дапамогу аказвае нам загадчык кафедры ўсеагульнай гісторыі Магілёўскага педагагічнага універсітэта В. Капыцін, які штогод перадае музею цікавыя археалагічныя рэчы, знойдзеныя ў час раскопак на тэрыторыі раёна. Музей актыўна супрацоўнічае з Дзяржаўным аб'яднаннем літаратурных музеяў рэспублікі, Дзяржаўным музеем этнаграфіі і побыту, Дзяржаўным музеем Вялікай Айчыннай вайны, Нацыянальнай бібліятэкай. Па матэрыялах навукова-даследчай працы супрацоўнікі музея штогод выступаюць у шэрагу навуковых канферэнцый.

**– Да ўсяго сказанага, відаць, не лішне будзе дадаць, што Вы, Уладзімір Маісеевіч, не толькі няўрымслівы краязнаўца-«раскопшчык», а і генератар усё новых і новых ідэй. Красамоўны ў гэтым радзе прыклад. Пасля выдання кнігі «Раскопкі» вакол Горацкага Парнаса» па Вашай прапанове ў Горках неўзабаве адбыўся першы рэспубліканскі фестываль студэнцкага гумару «Тарас на Парнасе».**

– Быў грэх. Падзяліўся ідэяй з рэдактарам часопіса «Вожык» Алесем Пісьмянковым, а той і ўхапіўся за яе.

**–... І газета «Культура» нядаўна прысвяціла ў сваім юбілейным, 600-м, нумары тэматычны разварот пра горацкую культуру і музей. Гонар для ўсёй вобласці! І асабліва, калі Горкі стануць месцам культуралагічнага эксперыменту, пра што паведамляла ўжо наша газета. Відаць, таксама не абышлося без Ліўшыца?**

– Музей, згодна з законам, – навукова-даследчая ўстанова. І мне хацелася б, каб ён такім і быў, а не лічыўся б у якасці культасветустановы. Раз у два гады мы ладзім навукова-практычную канферэнцыю, запрашаем магілёўскіх і мінскіх вучоных. Выдаём зборнік навуковых прац «Бацькаўшчына». І гэта дае падставу меркаваць, што раённы музей павінен быць філіялам рэспубліканскага і фінансавацца не з раённага, а рэспубліканскага бюджэту і працаваць паводле яго праграмы. Думаю, што эксперымент, які пройдзе на базе ўстаноў культуры нашага раёна, паўплывае на станоўчае вырашэнне гэтага пытання.

Нас вельмі хвалюе тое, што на працягу 15 гадоў не можам завяршыць будаўніцтва аддзела этнаграфіі. Вялікую надзею мы ўскладаем на кіраўніка раёна і дэпутата Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь М. М. Анікеева і абласныя ўлады.

**– З юбілеем Вас і ўвесь Ваш калектыў! Так і хочацца сказаць: «Брава, Горацкі гісторыка-этнаграфічны! Трымаць так і надалей».**

– Дзякуй. З дапамогай раённай газеты «Ленінскі шлях» усё ў нас атрымаецца. Будзем з ёй заўсёды ісці поруч.

*П. ДЗЕТЛІКОВІЧ,*
*г. Горкі*



**На здымку:** супрацоўнікі Горацкага раённага гісторыка-этнаграфічнага музея і карціннай галерэі (злева направа) Т. А. Караеўская, С. М. Макеева, Л. М. Дзеружкова, С. С. Скаромная, В. В. Белавусава

*Фота М. ЛЯЎЦОВА*

*Новае выданне*

## «Славутыя імёны Бацькаўшчыны»

У грамадскім аб'яднанні «Беларускі фонд культуры» зроблены добры падарунак краязнаўцам: у канцы 2003 года выйшаў з друку чарговы (другі) выпуск з серыі «Славутыя імёны Бацькаўшчыны». Першая кніга з гэтай серыі выйшла яшчэ ў 2000 годзе і на сёння ўжо стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

У другім выпуску змешчаны 28 біяграфічных нарысаў дзяржаўных, палітычных, вайсковых і грамадскіх дзеячаў культуры, навукі XI–XIX стагоддзяў, якія нарадзіліся і жылі ў Беларусі, а таксама праявілі свой талент і здольнасці ў іншых краінах. Значная іх частка была малавядома або зусім невядома на радзіме. Сярод іх такія постаці, як Міндоўг, Грыгорый Хадкевіч, Іпаці Пацей, Ян Дубовіч, Язэп Руцкі, Віктар Каліноўскі, Мікалай Ястржэмбскі, Казімір Чарноўскі, Напалеон Чарноцкі і іншыя.



Над кнігаю працавала створаная пры Беларускім фондзе культуры камісія, якую ўзначальвае вядомы гісторык нашай краіны Анатоль Грыцкевіч. Над біяграмамі славутых землякоў працавалі гісторыкі, архівісты, пісьменнікі, такія, як С. Тарасаў, Г. Галенчанка, В. Шалькевіч, А. Бутэвіч, В. Скалабан, І. Саверчанка, А. Кіштымаў, У. Мархель, В. Гапоненка, В. Кушнер, В. Скарабагатаў – усе імёны добра вядомыя гісторыкам і краязнаўцам нашай краіны.

Пры ўкладанні зборніка былі прыняты прынцыпы навуковасці, аб'ектыўнасці і гістарычнасці пры напісанні біяграфічных нарысаў. Выкарыстоўваліся біяграфічныя звесткі з розных даследаванняў, кніг і матэрыялаў прэсы, пераважна сур'ёзных выданняў, а таксама архіўныя матэрыялы. Аб гэтым сведчыць змешчаны ў канцы кожнага артыкула пералік крыніц, выкарыстаных аўтарамі пры яго напісанні.

Працягваецца праца над 3-м выпускам.

Беларускі фонд культуры выказвае шчырую падзяку ўсім, хто дачыніўся да падрыхтоўкі гэтай кнігі, асабліва Міністэрству інфармацыі , УП «Светач», супрацоўнікам часопіса «Права Беларусі» за матэрыяльную, арганізацыйную і творчую падтрымку нашага выдання.

На вялікі жаль, наклад выдання складае толькі 2000 асобнікаў. Кошт аднаго – 7 130 рублёў. Таму вельмі важна, каб кнігу ў першую чаргу набылі бібліятэкі непасрэдна ў Беларускім фондзе культуры: 220029, г. Мінск, Камунальная набярэжная, 6, тэл. 234-42-03, 283-28-24.

*Рэдкалегія*

З юбілеем

# Добрыя справы – добрая слава

2 студзеня 2004 года споўнілася 80 гадоў аднаму са старэйшых краязнаўцаў Беларусі Міхаілу Канстанцінавічу Лазару, былому завучу Хатлянскай сярэдняй школы Уздзенскага раёна, выкладчыку гісторыі.

Нарадзіўся ён у вёсцы Даўгінава Уздзенскага раёна. Амаль усё сваё сталае і працоўнае жыццё правёў у вёсцы Хатляны. Выхоўваў маладых хатлянцаў, вучыў іх любіць гісторыю роднага краю, любіць беларускую мову. Зжыўся Міхаіл Канстанцінавіч з гэтай вёскай, палюбіў і яе, і людзей. Амаль усё сваё жыццё па крупіцы збіраў гісторыю Хатлянаў. Нарэшце яго праца завершана. Літаральна ў апошнія дні 2003 года выдавецкім цэнтрам БелТА выпушчана кніга "Хатляны", у якой сабраны багаты і разнастайны матэрыял пра гісторыю вёскі з самай старажытнасці, пра гісторыю Хатлянскай сярэдняй школы, якая ў хуткім часе адзначыць сваё 140-годдзе.



Ганарацца хатлянцы сваімі славутымі землякамі – акадэмікам А. С. Махначом, паэтам Антонам Бялевічам, кандыдатамі навук, многімі таленавітымі спецыялістамі ў розных галінах вытворчасці, навукі, культуры, пра якіх можна даведацца з гэтай кнігі.

Дарэчы, гэтым жа выдавецкім цэнтрам выпушчана нядаўна кніга з серыі гісторыка-дакументальных хронік "Память. Узденскі раён". У гэтай кнізе – матэрыялы М. К. Лазара, змешчаны артыкул пра яго.

"Бог любіць тройцу", – жартуе Міхаіл Канстанцінавіч. – Я спяшаўся, каб паспець зрабіць для хатлянцаў трэцюю добрую справу". А мае ён на ўвазе вось што. Першай вялікай справай, якую ён зрабіў для хатлянцаў, было стварэнне ў школе гісторыка-краязнаўчага музея, які атрымаў званне народнага. Другой добрай справай была рэстаўрацыя Свята-Пакроўскай царквы, помніка архітэктуры XIX стагоддзя. Зараз у ёй ідуць набажэнствы. І трэцяя справа, задуманая гэтым нястомным чалавекам, таксама адбылася.

*Зінаіда МАЛЕЙКА (ХЛАПІЦКАЯ), навуковы рэдактар выдавецкага цэнтра БелТА, выпускніца Хатлянскай СШ*

# Вяртанне Міколы Ермаловіча




На адной з галоўных вуліц Маладзечна – Віленскай – напрыканцы мінулага тыдня з'явіўся новы помнік. У камені і бронзе маладзечанцы ўвекавечылі светлы вобраз свайго слыннага земляка, выдатнага гісторыка XX стагоддзя, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міколы Ермаловіча.

На гэтай вуліцы Мікола Іванавіч жыў. А на працу – штодня, у сцюжу і спякоту, першай жа электрычкай – спяшаўся ў Мінск: у Дзяржаўную бібліятэку Беларусі, архівы і сховішчы, каб з ранку і да змяркання шчыраваць над дакументамі і паперамі, на якіх яшчэ за некалькі тыдняў да таго стаяў сурова-папераджальны грыф "Совершенно секретно". Ермаловічу-гісторыку першаму з даследчыкаў пашчасціла пазнаёміцца з вельмі і вельмі многімі таямніцамі нашай шматпакутнай і гераічнай гісторыі, каб потым данесці тое іншым.

У 90-я гады яго імя і справа былі па-сапраўднаму ацэнены, прызнаны, ушанаваны. А да таго – на працягу не аднаго дзесяцігоддзя – тое ж імя і тая ж справа шальмаваліся, ганьбаваліся, прыніжаліся. Афіцыйнай гісторыі як навуцы было не на карысць прызнаць: тое, што рабіў гэты сціплы і абаяльны чалавек, не "ўпісвалася" ва ўсталяваныя на працягу савецкага перыяду жыццядзейнасці нашага грамадства каноны, падыходы і пазіцыі. Аднак, дзякуючы пошукам і знаходкам, аналітычнаму выкладанню фактаў, падзей і дат, Мікола Ермаловіч даказаў шмат што, і найперш – існаванне Беларускай дзяржавы ў XIII–XVII стагоддзях пад назвай Вялікае княства Літоўскае. Прысуджэнне яму Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь 1992 года стала той заканамернай з'явай і падзеяй, пра якую кажуць: праўда вышэй за ўсё! А кнігі М. Ермаловіча, і ў першую чаргу "Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае", сёння ведае, чытае і перачытвае кожны шчыры беларус.

Помнік Міколу Ермаловічу ў яго родным горадзе ўстаноўлены па ініцыятыве Маладзечанскага гарвыканкама і мінскага гарадскога гісторыка-краязнаўчага клуба "Спадчына" (кіраўнік – Анатоль Белы). А зрабіў яго таленавіты скульптар Уладзімір Мелехаў.

На ўрачыстым адкрыцці помніка прысутнічалі дзесяткі маладзечанцаў, гасцей з Мінску і іншых населеных пунктаў рэспублікі. Успаміналі пра Міколу Іванавіча, роздумамі пра яго пошукі і здабыткі, справы і здзяйсненні на карысць роднай Бацькаўшчыны падзяліліся дактары навук, прафесары Анатоль Грыцкевіч і Аляксей Саламонаў, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, аўтар некалькіх гістарычных раманаў Генрых Далідовіч, старшыня Маладзечанскага гарсавета Дана Жук, краязнавец Міхась Казлоўскі, мясцовыя паэты і даследчыкі, іншыя выступоўцы. Шчыра дзякавалі маладзечанцам за ўвагу і павагу да Міколы Іванавіча яго родныя браты Леанід і Валянцін Ермаловічы.

Тры з паловай гады назад Мікола Ермаловіч загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Аднак памяць пра яго, пра тую вялікую падзвіжніцкую справу, якую зрабіў ён, застанецца ва ўдзячнай памяці нашчадкаў назаўсёды.

*Анатоль МЯСНІКОЎ, Маладзечна*

# Подступы да персаніфікаванага даведніка

***Сяргей Чыгрын – гэта ўжо ці не цэлы інстытут у беларускім краязнаўстве. Асабліва – у веданні Гродзеншчыны, Слонімшчыны. Сумняваецеся? Тады азірніцеся на зробленае гэтым журналістам і літаратарам. У 1993 годзе ў Слоніме выходзіць яго кніга "Янка Купала і Слонімшчына". Сяргей Чыгрын падрыхтаваў і выдаў літаратурную спадчыну Станіслава Грынкевіча, Франука Грышкевіча, Уладзіслава Казлоўшчыка, гістарычную спадчыну Міколы Шкялёнка. Сотні артыкулаў у беларускай, замежнай перыёдыцы. А яшчэ – артыкулы ў бібліяграфічным даведніку "Беларускія пісьменнікі", Энцыклапедыі гісторыі Беларусі. Асобная тэма – абсягі зробленага ім у мастацкім перакладзе (паэзія і драматургія), у арыгінальнай паэзіі.***

***Новы плён знаўцы і песняра Слонімскай зямлі – кніга літаратурна-краязнаўчых партрэтаў "Родам са Слонімшчыны" (Слонім, Мінск, 2003. Наклад 299 асобнікаў). Разам сабраны нарысы ці эсэ пра Максіма Бурсевіча, Антона Валынчыка, Сяргея Дарожнага, Яўгена Леашэню, Гальяша Леўчыка, Венцаслава Пелікана, Андрэя Пракапчука, Канстанціна Пушкарэвіча, Язэпа Стаброўскага, Алеся Сучка. Хто ж гэтыя персанажы слонімскай і ўсебеларускай гісторыі? Відаць, варта нагадаць.***

**Максім Бурсевіч** (1890–1937) – палітык, які нарадзіўся ў вёсцы Чамяды. "У чэрвені 1925 года ён увайшоў у 1-ы актыў Беларускага пасольскага клуба, а праз год быў залічаны ў склад ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ) і выбраны кіраўніком яе Цэнтральнага сакратарыята. Максім Бурсевіч загадваў фінансавымі сродкамі БСРГ, ствараў яе мясцовыя камітэты, наладжваў іх работу". З 1931 года М. Бурсевіч – у БССР. Працаваў у Дзяржплане рэспублікі. У 1933 годзе арыштаваны. У 1937 – расстраляны. Фігура, лічы, з шарэнгі Сымона Рак-Міхайлоўскага, Браніслава Тарашкевіча. Але ж дастойным чынам М. Бурсевіч не ўшанаваны, няма пра яго асобнай кнігі. Няма і іншых пазнак памяці.

**Антон Валынчык** (1896–1985) – дырыжор, кампазітар, педагог. Заслужаны работнік культуры Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Мяльканавічы. Першыя самадзейныя хоры арганізаваў яшчэ да 1939 года ў Клецкай і Навагрудскай гімназіях. Ужо ў савецкі час працаваў кіраўніком народнай харавой капэлы настаўнікаў у Гродне, загадчыкам кафедры музыкі і спеваў Гродзенскага педінстытута. Напрыканцы нарыса пра А. Валынчыка Сяргей Чыгрын цытуе адрасаваны яму ліст заслужанага настаўніка Беларусі Апанаса Цыхуна, які добра ведаў творцу: "... ён [Валынчык] без усякай прычыны быў адхілены ад кіраўніцтва ансамблем песні і танца "Нёман", які меў ганаровае званне народнага... Ён памёр 13 лістапада 1985 года. Пахаваны на новых могілках горада Гродна. На магіле яго няма помніка, пастаўлены просты жалезны крыж".

Паэт **Сяргей Дарожны** (1909–1943) нарадзіўся ў Слоніме. Быў рэпрэсіраваны. Сяргей Чыгрын сабраў багатыя матэрыялы пра літаратара-земляка. Дзеля гэтага ліставаўся з Васілём Хомчанкам, Сяргеем Грахоўскім, Паўлам Пруднікавым, Максімам Лужаніным, якія добра ведалі С. Дарожнага, сябравалі з ім. Нарыс пра паэта – узор краязнаўчай руплівасці, паслядоўнасці С. Чыгрына ў зборы матэрыялаў. За месяц-два такі нарыс, такі творчы партрэт не напішаш. Пісьмовому ўвасабленню папярэднічала вялікая пошукавая, даследчыцкая работа.

**Яўген Леашэня** (1900–1981) – генерал-лейтэнант інжынерных войск. І яшчэ – заўзяты краязнавец. У якой беларускай старонцы, дзе яшчэ нарадзіўся генерал-краязнавец?! Дзякуй Богу, памяць пра Леашэню ўшанавана. На адным з будынкаў у Слоніме ўсталявана мемарыяльная дошка. Вуліца, якая вядзе з цэнтра ў мікраён Альбярцін (у колішняй вёсцы Альбярцін нарадзіўся Леашэня), названа яго імем. А ў Слонімскім музеі захоўваюцца падрыхтаваныя Леашэнем рукапісныя тамы пра Слонім і Слонімшчыну. Мо і да іх дойдуць рукі навукоўцаў і выдаўцоў?

**Гальяш Леўчык** (1880–1944) – паэт, калекцыянер, мастак, музыкант. Легенда не толькі Заходняй Беларусі. Гальяш Леўчык – легенда беларускага жыцця "нашаніўскага перыяду".

**Венцслаў Пелікан** (1790–1873) – вядомы хірург і анатам. Нарадзіўся ў Слоніме. За працу "Аб анеўрызмах" яму было прысвоена званне доктара медыцыны. Працаваў у Віленскім універсітэце прафесарам кафедры тэарэтычнай і практычнай хірургіі і хірургічнай клінікі, выкладаў хірургію, анатомію і судовую медыцыну. Вынайшаў спецыяльную фрэзу для трэпанацыі чэрапа. У Беларускай энцыклапедыі пра Пелікана – артыкул усяго ў 12 радкоў...

**Андрэй Пракапчук** (1896–1970) – доктар медыцынскіх навук, акадэмік Акадэміі навук Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Чамяры. Быў урачом Янкі Купалы.

**Канстанцін Пушкарэвіч** (1890–1942) – гісторык літаратуры, перакладчык, славіст, педагог, доктар філалагічных навук, прафесар. Нарадзіўся ў Слоніме. Памёр ад голаду ў блакадным Ленінградзе.

**Язэп Стаброўскі** (1870–1968) – археолаг, краязнавец, гісторык, філосаф, вынаходнік, заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея – аднаго са старэйшых у Беларусі. Нарадзіўся ў Слоніме. Палкоўнік царскай арміі. Пра Стаброўскага шмат напісана. Яго імя – у кантэксце гісторыі беларускага краязнаўства. Але і (пра гэта – у нарысе Сяргея Чыгрына) "магілы Стаброўскіх зраўняліся з зямлёй, крыжы пагнілі і валяліся пад сухім, чорным лісцем..." Праўда, у верасні 2002 года ў гонар Стаброўскага ўсталявана мемарыяльная дошка на будынку музея. І сам музей названы імем яго стваральніка. А магілы па-ранейшаму знаходзяцца ў занядбаным стане.

**Алесь Сучок** (1916–1993) – паэт, які нарадзіўся за межамі Беларусі (бацькі – выгнаннікі са Слонімшчыны), але ўсё яго свядомае жыццё звязана са слонімскім краем.

"Родам са Слонімшчыны", зважаючы на персаналіі, несумненна, мае цікавасць для ўсіх, каго вабіць гісторыя Айчыны. Але галоўным чынам кніга адрасавана слонімскаму чытачу, слонімскім школьнікам.

**У рабоце С. Чыгрына бачацца і вытокі, пачаткі для рэгіянальнага персаніфікаванага даведніка. Зрабіў жа Аляксей Пяткевіч кнігу "Людзі культуры з Гродзеншчыны". Чаму б не сабраць кнігу "Людзі культуры і навукі са Слонімшчыны"? І зрабіць гэта пад сілу нават аднаму Сяргею Чыгрыну. Дакладней, зрабіць гэта ў сілах Сяргея Чыгрына. Папярэдне зробленае ім – добрае гэтаму пацвярджэнне.**

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

*Чытацкі водгук*

# “Не здавацца, а быць!”

Калі мне патрапілі кнігі “Шлях адраджэння” (1997), “Ахвярую сваім “я”...” (1998), “Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы” (2001), дзе аўтар, сааўтар ці ўкладальнік – Радзім Гарэцкі, то загарэўся напісаць аб’ёмнае эсэ пад прыкладнаю назваю “Род Гарэцкіх”. Але калі яшчэ пазнаёміўся з кнігамі-тамамі “Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі: успаміны, артыкулы, дакументы” (2000), “Гаўрыла Гарэцкі. Выбранае” (2002), якія таксама выйшлі з лёгкай рукі Радзіма Гаўрылавіча, то зразумеў, што эсэ мае не ўдасца: магу паспрабаваць сказаць сваё слова пра Максіма Гарэцкага, а вось пра яго брата, Гаўрылу Іванавіча, не здолею. Каб асэнсаваць зробленае ім, трэба быць калі не вучоным яго спецыяльнасці, то хоць бы навуковым публіцыстам. Ды ёсць выйсце: кожнаму інтэлігентнаму чалавеку неабходна найперш пазнаёміцца з тым, што падрыхтаваў і выдаў пра бацьку, бацькава Радзім Гаўрылавіч. Кожны пры шчырай зацікаўленасці глыбей уявіць, якія буйныя асобы былі, ёсць у нас Гарэцкія – акадэмікі ў літаратуры, навуцы, грамадскім жыцці, кім і чым можна ганарыцца кожнаму свядомаму і сумленнаму.

І вось новае выданне Радзіма Гарэцкага “Вечна жыве Беларусь!” – артыкулы, інтэрв’ю, замалёўкі, выдадзеныя ў 2003 годзе ў “Беларускім кнігазборы”. Яны яшчэ больш пашыраюць веды пра ягоных славутых родзічаў. Скажам, з болем чытаем, што наш класік Максім Гарэцкі з-за войнаў, знявольванняў змог пражыць, папрацаваць больш-менш спакойна ўсяго толькі 13 гадоў і быў у 1938 годзе за 15 хвілін расстраляны ў ліку 40 чалавек у Вязьме і хутка закапаны “на адпаведную глыбіню”, хоць сцвярджалася, што ён, не пражыўшы і 45 гадоў, памёр сваёй смерцю. З радасцю чытаеш, што Гаўрыла Гарэцкі стаў акадэмікам у 28 гадоў і “яшчэ ў канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя мой бацька... апублікаваў працу “Нацыянальныя асаблівасці БССР і беларускага насельніцтва СССР паводле перапісу 1926 г.”. Ён прыйшоў да вельмі сумнай высновы, што “беларусы перажываюць працэс асіміляцыі выключнай моцы, які ставіць беларусаў на ўзровень (у гэтых адносінах) да найбольш “некультурных” нацыянальнасцяў СССР, што стаяць на грані ўжо фізічнага знішчэння і вымірання”. Зразумела, такая пазіцыя энергічнага, ініцыятыўнага чалавека, грамадзяніна-патрыёта, буйнога вучонага, заклапочанага не толькі навукаю, але і за лёс роднага народа, была недаспадобы і яго арыштоўваюць, двойчы прысуджаюць да расстрэлу, саслалі, званне акадэміка вярнулі толькі ў 1965 годзе, а ў Беларусь дазволілі вярнуцца ажно ў 1969-м, амаль праз 40 гадоў выгнання, калі яму было пад 70. “Ён стаў заснавальнікам новай навукі, – зазначае сын-акадэмік, – палеапатамалогіі (вучэнне пра рэкі геалагічнага мінулага), стварыў вядомую ў свеце беларускую школу даследчыкаў геалогіі антрапагену, быў на чале Камісіі па вывучэнні чацвярцічнага перыяду АН СССР, Савецкай секцыі Міжнароднай асацыяцыі па вывучэнні чацвярцічнага перыяду, надрукаваў шэраг манаграфій, за якія атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР, а затым разам са сваімі вучнямі – Дзяржаўную прэмію БССР”. Здаецца, у яго гонар названа дзесяць ці больш выкапнёвых раслін.

Той, хто, паўторым, зажадае прачытаць вышэйназваныя кнігі, каб больш уведаць пра М. і Г. Гарэцкіх (пра бацькоў, братоў, жонак бацькі і дзядзькі, іхніх нашчадкаў), у новай кнізе больш уведае і пра самога аўтара, бо яна, гэтая кніга, з папярэдніх найбольш асабістая. У ёй – тры часткі, у якіх паўстае ў розных іпастасях – грамадскі дзеяч і публіцыст, вучоны і аўтар празаічных мініяцюр і маленькіх апавяданняў.




Радзім Гарэцкі нарадзіўся ў Мінску ў 1928-м (у год, калі тата меў і вялікі поспех, і, як чыталі, вялікія турботы за ўсю нашу нацыю), мусіў змалку спазнаць гора і бяду, быць адарваным ад Радзімы, вучыўся ў 10 розных расійскіх школах, дзе, зразумела, беларуская мова, культура, гісторыя не вывучаліся, але дзе ведалі, што ён – сын беларускага “нацдэма”. Скончыў Маскоўскі нафтавы інстытут, працаваў у Геалагічным інстытуце АН СССР, там, у Маскве, стаў доктарам геолага-мінералагічных навук, выявіў Базайскае газавае радовішча ў Заходнім Казахстане, у 1969-м атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР за тэктанічную карту Еўразіі і манаграфію “Тэктоніка Еўразіі” (у сааўтарстве).

Такі ці прыкладна падобны быў шлях і ў некаторых нашых іншых землякоў, якія аддалі і аддаюць свае веды, сілы братнім суседзям, але часамі, на жаль, прыніжаюць былую родную мову і культуру былога роднага народа. Але гэта не ў характары, нават не ў генах Гарэцкіх, і ў 43 гады Радзім Гаўрылавіч вяртаецца ў Мінск, пачынае працу ў Інстытуце геалогіі і геафізікі АН БССР, а з 1977-га – там дырэктар і акадэмік, у 1992-м – стаў віцэ-прэзідэнтам.

З першай часткі кнігі “Дзяржаўнасць, незалежнасць, дэмакратыя, адраджэнне” (а такое, бясспрэчна, невыпадкова вынесена менавіта ў першую частку) яскрава відаць, што Радзім Гарэцкі ўслед за дзядзькам і бацькам не проста не пазбавіўся гістарычнай памяці, душы, але глыбока авалодаў нашай гісторыяй і культурай. Усведамленне іхняй самастойнасці, памножанай на спецыфічныя навуковыя веды, дае яму поўнае права ставіцца да вызначальнага лёсу нашай краіны па-дзяржаўнаму. Тут – не толькі гісторыка-культурнае падкрэсліванне даўніх традыцый беларускай дзяржаўнасці ў часы ВКЛ, тут – і навуковае абгрунтаванне на аснове даследавання прыроды, нетраў нашай зямлі, што дало яму права абвергнуць унікальны тэзіс пра нашыя беднасць і занядбанасць і заявіць нават загалоўкам артыкула: “Беларусь – багатая еўрапейская краіна”. А што да гэтых еўрапейскасці і багацця, то кожнаму з нас было б вельмі павучальна прачытаць яго навуковую працу “Мінеральныя рэсурсы Беларусі”, каб хоць даведацца, што, дзе і колькі чаго ў нас ёсць, як з ім трэба абыходзіцца. А ёсць нямала чаго (торф, розныя віды будаўнічых матэрыялаў, сапрапелі, даламіт, бурштын, гіпс, нафта, падземныя воды, гаручыя сланцы, вугаль, жалезныя руды, серабро, золата). Асабіста мяне вельмі ўразіла звестка, што ў нас “практычна невычарпальныя” запасы спажывецкай солі ў Прыпяцкім прагіне, яна залягае на розных глыбінях, але магутнасць яе слоя дасягае 1–3 км, а плошча распаўсюджвання – прыкладна 30 тысяч кв. метраў. Не багацце? Але для здабывання яе, як і іншага, патрэбны не толькі немалыя сродкі, але і навуковыя распрацоўкі, рацыянальнае выкарыстанне, малаадходныя тэхналогіі, а з імі звязаны і экалагічныя пытанні. Таму аўтар зусім слушна сцвярджае: геалогію неабходна вывучаць яшчэ са школы. І для сённяшняга дня, і для будучыні.

У другой частцы кнігі “Навука і яе дзеячы” Радзім Гарэцкі вылучае шэраг навуковых праблем, з павагай піша пра рускага вучонага А. Л. Яншына – “дорогого моего учителя и друга”, пра акадэміка К. І. Сатпаева – “выдатнага сына казахскага народа”, пра вядомага геолага смаленца А. В. Македонава, які вызначаўся і ў літаратуразнаўстве, пра акадэміка-нафтавіка, аднаго з заснавальнікаў Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук, нашага земляка А. А. Трафімука, пра былыя і сённяшнія дні нашай Акадэміі навук, дзе адбываюцца і пэўныя парадоксы, нават у тым, калі яна, да слова, стала Нацыянальнай, то ў ёй узмацніўся нацыянальны нігілізм – пачалі пазбаўляцца беларускай мовы. Ёсць і іншыя закіды, гэта будзе многім недаспадобы, але ў гэтых закідах – вялікія шчырасць і заклапочанасць аднаго з Гарэцкіх! Адно са сваіх эсэ Радзім Гаўрылавіч так і назваў: “Я адказны за свой род і Беларусь!” Як вядома, верным сынам сваёй маці нельга быць на траціну ці нават напалавіну. Ды трэба “быць, а не здавацца (казаться!”), згодна са словамі сына, гаварыў Гаўрыла Іванавіч. І гаварыў праўдзіва, мудра, як сын сваіх бацькоў, свайго народа!

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*

P. S. А што да літаратурных твораў Радзіма Гарэцкага, то і яны чытаюцца з цікавасцю.

# Мінеральныя рэсурсы Беларусі

***З кнігі «Вечна жыве Беларусь!»***

## Геалагічная будова тэрыторыі Беларусі

Уся тэрыторыя нашай краіны належыць да Усходне-Еўрапейскай старажытнай платформы (кратона) – найбольш устойлівых літасферных пліт (буйных блокаў літасферы Зямлі). Кратон складаецца з крышталічных парод фундамента (гнейсы, гранітагнейсы, амфібаліты, сланцы і інш. узростам ад 1,6 да 3,5 млрд гадоў) і адкладаў платформавага чахла (пяскі, пясчанікі, гліны, мергелі, солі і інш. узростам ад 1,6 млрд гадоў да сучасных). Крышталічны фундамент залягае на розных глыбінях: у кар’ерах Мікашэвічы і Глушкавічы ён выходзіць на паверхню зямлі, на вялікіх абшарах Мізшчыны і часткова Гродзеншчыны распаўсюджаны неглыбока – да 500 м (тут знаходзіцца Беларуская антэкліза), каля Брэста апушчаны на 1–1,5 км (Брэсцкая ўпадзіна), каля Магілёва, Віцебска і Оршы – на 1,2–1,7 км (Аршанская ўпадзіна), а на поўдні Беларусі – галоўным чынам Гомельшчына, часткова поўдзень Міншчыны і ўсход Брэстчыны – аж на 3–4 і нават да 5–6 км (Прыпяцкі прагін). З пародамі крышталічнага фундамента звязаны свой набор карысных выкапняў, з асадкавымі адкладамі – іншы. Таму там, дзе фундамент выходзіць на паверхню зямлі ці залягае неглыбока, рацыянальна шукаць мінеральныя ўтварэнні, якія знаходзяцца ў пародах фундамента, і наадварот, там, дзе ён пахаваны магутнымі асадкавымі адкладамі – выкапні, звязаныя з апошнімі.

Гісторыя геалагічнага развіцця тэрыторыі Беларусі вельмі складаная і разнастайная: тут былі вулканы і землятрусы, невялікія горы і лававыя плато, раўнінная суша і мора з рознай глыбінёй і салёнасцю (у тым ліку глыбокія – да 700 м тыпу сучаснага Чырвонага мора), буйныя азёры і рэкі, пакроўныя ледавікі і густыя трапічныя лясы і г. д.

Кожная геалагічная эпоха пакінула пасля сябе своеасаблівыя пароды з характэрнымі для іх карыснымі выкапнямі. Найбольш малады (ад 1,5 млн. гадоў таму да сучаснасці) так званы чацвярцічны (ці антрапагенавы) перыяд характэрны некалькімі пакроўнымі (мацерыковымі) абледзяненнямі, якія пакінулі ледавіковыя вельмі стракатыя па складу і магутнасці (таўшчыні) адклады (пяскі, гліны, супесі, жвір, валуны і інш.). Яны пакрылі тоўстым (да 100–300 м) слоем усю тэрыторыю краіны і пахавалі пад сабой больш старажытныя пароды, якія толькі ў некаторых месцах выходзяць на зямную паверхню па берагах рэк, у кар’ерах, у гляцыядыслакацыях (пароды, якія выціснуў, выараў ці адарваў ледавік пры сваім руху).

## Якія карысныя выкапні вядомыя даўно

У сувязі з тым, што ледавіковыя адклады чацвярцічнага перыяду пакрываюць амаль усю тэрыторыю Беларусі, тут аж да пачатку пасляваенных гадоў былі вядомыя галоўным чынам тыя карысныя выкапні, якія звязаны з гэтымі найбольш маладымі геалагічнымі ўтварэннямі. Да іх перш-наперш належыць торф, здабыча якога ў Беларусі вядзецца здаўна, а ў савецкі час дасягала 50 % ад усесаюзнай вытворчасці. Першасныя тарфяныя рэсурсы ацэньваліся ў 5,7 млрд. т, адкрыта больш за 9 тыс. радовішчаў. Здабыта ўжо больш за 1 млрд. т торфу. Цяпер засталося прамысловых запасаў толькі 588 млн. т. Пры сучасным узроўні здабычы іх хопіць прыблізна на 35 гадоў. Таму торф як паліва рацыянальна захаваць для выкарыстання ў бытавым сектары і больш эфектыўна спажываць у сельскай гаспадарцы (падсцілка, угнаенні і інш.), а таксама хімічнай, медычнай прамысловасці (лекі, шампунь, новыя матэрыялы і інш.).

З балотамі Беларусі звязаны жалезістыя адклады – *бурыя жалезнякі*, якія раней выкарыстоўвалі як жалезныя руды. Але яны маюць толькі гістарычнае значэнне і далі назвы некаторым населеным пунктам (Рудня, Рудзенск і інш.).

Нетры Беларусі багатыя рознымі *будаўнічымі матэрыяламі* (пяскі, жвір, гліны, мел, мергель), вядомымі з даўніны. Важнае значэнне маюць радовішчы *мергельна-мелавых парод* – сыравінная база цэментнай прамысловасці (ПА «Ваўкавыскцэментшыфер», «Крычаўцэментшыфер», Беларускі цэментны завод у Магілёўскай вобл.). Разведана 15 радовішчаў з агульнымі запасамі 831 млн. т. Распрацоўваюцца з іх 8. Гадавая здабыча больш за 4 млн. т. Разам з мергельна-мелавымі пародамі сустракаецца *крэмень*, які залягае сярод іх у выглядзе жаўлакоў, сцяжэнняў, канкрэцый самых мудрагелістых формаў (шары, яйкі, палачкі, звярушкі, птушкі і г.д.). Пра іх многа пісалася ў прэсе як пра выдатную сыравіну для ачысткі вады, медычных мэтаў і г.д. Але канчаткова пытанне засталося адкрытым. Запасы яго досыць вялікія – пакуль таксама дасканала яшчэ не падлічаныя. Для вытворчасці будаўнічай і тэхналагічнай вапны эксплуатуюцца радовішчы мела (іх разведана 32 з агульным запасам 137 млн. т). Гадавая здабыча каля 1,5 млн. т.

Вядомы два радовішчы *шкляных пяскоў*: Лоеўскае ў Гомельскай вобласці і Гароднае ў Брэсцкай (запасы 15 млн. т). Гэтых пяскоў не хапае, і таму іх часткова прывозяць з Украіны і Расіі. Разведана 80 радовішчаў *будаўнічых і сілікатных пяскоў* (агульныя запасы 348 млн. $м^3$), з іх эксплуатуюцца 40 з гадавой здабычай каля 8 млн. $м^3$.

*Фармовачныя пяскі*, неабходныя для металургічнай прамысловасці, вядомы ў трох радовішчах з агульным запасам больш за 44 млн. т. Цяпер распрацоўваюцца з іх два – Ленінскае і Жлобінскае.

На паўднёвым усходзе Беларусі вядомы радовішчы *глаўканіта-кварцавых пяскоў*. Запасы толькі аднаго з іх блізу Лоева ацэнены ў 15–18 млн. т. Глаўканіт – важная сыравіна для вытворчасці многіх рэчаў: мінеральнай фарбы, угнаенняў, сарбентаў, паверхнева-актыўных рэчываў і г.д.

*Пясчана-гравійных* кар’ераў больш за 80 з гадавой здабычай прыблізна 25 млн. $м^3$, а ўсіх радовішчаў гэтых матэрыялаў – 140 млн. $м^3$ (запасы – больш 700).

Разведана 212 радовішчаў *легкаплаўкіх глін* для вытворчасці цэглы (запасы 208 млн. $м^3$), эксплуатуецца з іх 113 млн. $м^3$ (здабыча каля 3). *Тугаплаўкія гліны* (6 радовішчаў з запасамі 54 млн. т) патрэбны для сценавых камянёў і каналізацыйных труб. Вядомы 9 радовішчаў глін (запасы 61 млн. $м^3$) для вытворчасці аглапарыту і керамзіту.

*(Працяг будзе.)*





*Шаноўная рэдакцыя!*

*Мы (савет музея, пра які гаворка пойдзе пазней) вельмі рады, што з'явілася "Краязнаўчая газета". З 1 студзеня 2004 года мы на яе падпісаліся. І таму хочацца расказаць на старонках газеты і пра нашы знаходкі. Ад імя савета музея заметку напісаў Станіслаў Нікіцін. Будзем рады, калі надрукуеце здымак да гэтага матэрыялу, які зрабіла Нікіціна Людміла Канстанцінаўна, кіраўнік музея.*

*Коратка пра наш музей. Існуе з 1986 года. Мае статус "народны" з 1996-га. З 2000 года працуе ў абноўленым выглядзе (дабудавана этнаграфічная зала). Экспанатаў налічваецца больш за 3 тысячы.*

*Л. К. НІКІЦІНА,*
*кіраўнік музея "Гісторыя Заронаўскага краю"*

# Знаходкі заронаўскіх краязнаўцаў



Шмат вакол нас цікавага. У гэтым мы, пажылыя і зусім маладыя, упэўніваемся кожны раз, як адпраўляемся ў этнаграфічную экспедыцыю. Вось мы, вучні, адправіліся наведаць могілкі ў Шчацінцы Віцебскага раёна. У XVIII – пачатку XIX стагоддзя Шчацінка была цэнтрам жыцця Заронаўскай акругі, бо тут была царква, школа, карчма. Кіпела тут жыццё. Аб гэтым мы даведаліся ад старажылаў, а таксама з дакументаў, якія ёсць у архіве.

Сёння я хачу расказаць аб незвычайных помніках.

З аповеду мясцовых жыхароў мы ведалі, што тут пахаваны былы святар Заронаўскай царквы святога Ануфрыя Кліменці Альхімовіч. Нам жа пакуль удалося знайсці надмагільны помнік яго жонкі Агаф'і, якая пахавана ў 1847 годзе. Дзе ж магіла, нам невядома, бо помнік знайшлі паваленым. Побач прыцягнуў нашу ўвагу яшчэ адзін помнік, звалены ў кустоўі. Разглядалі, чыталі і вычыталі:

"Подпоручик Георгий Иванович Орлов, доблестно павший 5 августа 1916 года на Австрийском фронте. Год рождения 6 января 1892 года. Горяче любимому сыну и товарищу-герою от сослуживцев Витебской казённой палаты". Ніжэй напісана: "И сестра его Мария, скончалась 15 января 1915 года, 15 лет".

Магчыма, жывуць і сёння родныя Г. І. Арлова. Для нас будзе вялікай радасцю сустрэча з імі. А вось каменныя крыжы выклікалі ў нас не толькі здзіўленне, але і мноства пытанняў. Мы знайшлі тры такія крыжы. Два з іх "растуць" адзін за адным. Трэці быў закінуты ў смецці.

Звярнуўшыся да энцыклапедыі, знайшлі, што такіх крыжоў на Беларусі, як сцвярджае Л. У. Дучыц, каля 100. Найбольш вядомы крыж XVI стагоддзя ў Бешанковіцкім раёне. А раптам нашы знаходкі ды больш старэйшыя? Чакаем слова навукоўцаў, каб яны вызначылі іх узрост. Усе нашы знаходкі размешчаны вакол месца, дзе стаяла царква. Яшчэ ўвагу прыцягвае металічны крыж з вылітымі літарамі, дзе можна прачытаць: "Пахавана раба божая Кавалеўская Ганна, якая памерла ў 1868 годзе". Што за асоба была гэтая жанчына, калі яе пахавалі ля царквы?

Калі хто з гісторыкаў зацікавіцца нашымі знаходкамі, мы будзем рады бачыць іх у нас у Заронаве. У нас шмат пытанняў.

*Станіслаў НІКІЦІН,*
*член савета музея*

*Адметнасці глыбінкі*

# Дзятлаўскі касцёл

Ёсць звесткі, што ў 1624 годзе ў Дзятлаве пачалося будаўніцтва мураванага касцёла. На гэтую важную справу выдаткаваў сродкі Казімір Леў Сапега. Гэты чалавек быў багаты і ўладны – з 1637 года выконваў абавязкі маршалка літоўскага, а з 1647-га быў падканцлерам Вялікага княства Літоўскага.

Казімір Сапега на ўласныя сродкі заснаваў юрыдычны факультэт у Віленскай акадэміі, падараваў яму свой Ружанскі кнігазбор, у якім налічвалася тры тысячы тамоў. У той час гэта быў багаты падарунак.

Варта адзначыць, што Казімір быў сынам вядомага Льва Сапегі, канцлера Вялікага княства Літоўскага і укладальніка яго Статута. Словам, сын працягваў справу бацькі і клапаціўся пра юрыдычную аснову дзяржавы і прававую культуру народа.

Нельга не прызнаць, што Казімір Сапега быў адным з самых дасведчаных людзей свайго часу, займаўся ўзвядзеннем храмаў. Дарэчы, будаўніцтва Дзятлаўскага касцёла працягвалася 22 гады. У 1646 годзе храм, зроблены ў стылі віленскага барока, паўстаў перад людзьмі ва ўсёй сваёй велічы і красе, сапраўдным помнікам архітэктуры XVII стагоддзя.

Пры непасрэдным удзеле Казіміра Сапегі ў касцёле пачаўся збор багатай бібліятэкі. Праўда, кнігазбор згарэў у час пажараў у XVIII стагоддзі.

У 1751 годзе пасля вялікага пажару касцёл быў перабудаваны ў барочна-ракайльным стылі. Гэтай справай займаўся дойлід А. Асіковіч па фундацыі М. Ф. Радзівіл. Восенню 1882 года зноў згарэў дах храма. А ў 1900 годзе яго зрабілі на сродкі парафіян. У той жа час касцёл абнеслі высокаю мураванаю агароджаю. Праўда, пазней яна была разламана. Новая агароджа зроблена не так даўно.

Радуе людзей касцёл Успення Багародзіцы і сёння. Будынак храма – выдатнае дасягненне архітэктуры: двухвежавая аднанефавая базіліка з паўкруглай апсідаю і бакавымі сакрысціямі. Двухсхільны дах, які пад апсідаю пераходзіць у конусападобны, завершаны крыжам.

Няўмольна бяжыць час. Храму ўжо 355 гадоў. Ён быў сведкам Паўночнай вайны, у час якой шведы спалілі самую старажытную пабудову мястэчка – драўляную крэпасць, зробленую яшчэ князем Канстанцінам Астрожскім. Паўз сцены касцёла прайшлі нашэсце Напалеона 1812 года, Першая і Другая сусветныя войны...

І калісьці раней, і сёння ідуць у храм вернікі, нясуць сюды свае гора і беды, радасць і спадзяванні, адкрываюць перад Богам свае сэрцы, знаходзяць душэўны спакой. Тут вянчаюцца маладыя пары, нараджаюцца новыя сем'і.

Жыхарам райцэнтра і навакольных вёсак засталася вялікая духоўная спадчына. Абавязак, справа гонару кожнага – берагчы і захоўваць яе, каб гэты храм яшчэ доўга-доўга служыў людзям і быў у радасць нашчадкам.

*Іосіф ЗАЯЦ,*
*г. Дзятлава*

# ЛЕГЕНДАРНЫ ДУБОК

Даўно збіралася з'ездзіць уДубок — невялікую вёсачку на беразе Віліі ў Астравецкім раёне. Кожны год тут адбываецца фэст, кожны год сюды збіраюцца пілігрымы да Найсвяцейшай Панны.

Дубок – Жодзішскай парафіі. Некалі на беразе Віліі існаваў касцёл, які ў 1883 годзе быў закрыты, а падчас Першай сусветнай вайны разбураны.

Раней гэтае месца звалася курганамі, тут хавалі людзей (багаты чалавек – высокі курган, бедны – ледзь відаць). Узнікла думка пабудаваць капліцу. Сведкі кажуць, што гэтую думку падказала ксяндзу Рамуальду Дроніч, які ўзначальваў Жодзішскую парафію, вельмі набожная панна, яна надта хацела, каб тут была святыня.

Выбралі прыгожае месца, і 26 мая 1929 года на свята Сёмухі каплічка была ўрачыста асвячона Віленскім біскупам у прысутнасці шматлікіх гасцей і вясковых прыхаджанаў. У грамаце на адкрыцці капліцы сказана: «Пабудавана агульнымі намаганнямі і стараннямі ксяндза Рамуальда Дроніча пры дапамозе і вялікай ахвярнасці набожных парафіян, мясцовай інтэлігенцыі і настаўніцтва пад заклікам Маці Божай Несупыннай Дапамогі...» Упрыгожыў капліцу і стаў яе каштоўнасцю абраз Маці Божай Несупыннай Дапамогі, намаляваны ксяндзом Баляславам Грамзам. Алтар для капліцы ахвяраваў святар з Лаварышак, звон – з Кямялішак. Кожную нядзелю а сёмай гадзіне раніцы прыязджаў на кані ксёндз з Жодзішак і вёў набажэнствы. І сёння гэтая капліца радуе людское вока, стаіць у атачэнні дубкоў, ліп, бяроз і сосен. Да гэтага часу захоўваецца памятка аб адкрыцці капліцы, стары алтар і фотаздымак ксяндза Рамуальда Дроніча.

У 1936 годзе пачалі будаваць Прыпынкі Маці Божай, выбралі месца ў ціхай даліне і на працягу 2 кіламетраў устанавілі 7 крыжоў з абразамі, намаляванымі ксяндзом Баляславам Грамзам. Трэцяя станцыя ўяўляе браму 7 метраў вышынёй і 6 – шырынёй. Асвяцілі яе ў верасні 1936 года, сабралася тады ў дажджлівы дзень 6 000 пілігрымаў. Апошні прыпынак на беразе Віліі, ля крыніцы, над ёю, нахіліўшыся, стаіць Маці Божая у белых шатах, з-пад ног яе б'е цудадзейная крыніца. За сотні вёрст прыязджаюць сюды людзі, апошнія метры яны пераадольваюць на каленях. Драўляная капліца ў Дубку не апошняя, у 1937 годзе непадалёк ад яе збудавалі з каменя і цэглы. Ля яе дзвярэй умуравана дошка з надпісам: «Няхай той, хто мінае гэтую капліцу, прачытае «Радуйся, Марыя» за спакой душы Ігната Сідарэвіча». У свой час І. Сідарэвіч эміграваў у ЗША, зарабіў там грошай і вырашыў набыць на радзіме ўчастак зямлі, даручыў гэтую справу сваім братам. Яны ўсё выканалі, але афармілі на сваё імя. Кажуць, што Ігнат ад такой весткі скончыў жыццё самагубствам, а браты, адчуваючы віну, вырашылі ахвяраваць грошы і ўчастак зямлі на будаўніцтва капліцы. Кіраваў работамі мастак Пётр Сергіевіч. Праводзіў набажэнствы ў Дубку і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, змагар за Беларушчыну. У яго ўпершыню спавядалася Стафанія Ляскоўская, жыхарка Дубка, якая нарадзілася ў 1914 годзе, была сведкай будаўніцтва капліц і з ахвотай расказала нам пра гэта. Да 90-х гадоў капліца не зачынялася. А ў 90-х пачалася пагоня за скарбамі і рарытэтамі, пацярпела і капліца: выкрадзены абраз Маці Божай, намаляваны ў канцы 20-х гадоў, і іншыя каштоўнасці. Кажуць, некаторыя рабаўнікі пакараныя, іншыя свае атрымаюць. Сёння адбываюцца набажэнствы толькі ў час фэсту.





**На здымках:** драўляная капліца ў Дубку; трэцяя станцыя ўяўляе Браму, зробленую з цэглы і каменя.

*Леакадзія МІЛАШ,*
*Вільня*
*Фота аўтара*





*Асобы ў краязнаўстве*

# З бібліятэкай на «Вы»

Вывучаць родны наш край – гэта гонар грамадзяніна і адначасова асалода пазнавання Бацькаўшчыны. Таму людзі краязнаўчай працы, мабыць, трохі не такія, як усе – лепшыя з нас. Прафесійных краязнаўцаў Берасцейшчыны можна пералічыць па пальцах. Ніна Гурская – адна з такіх рэдкіх прадстаўнікоў творчай прафесіі бібліятэкараў.

Нарадзілася Ніна Аляксееўна ў вёсцы Блювінічы Брэсцкага раёна. Любіла кнігі, літаратуру, таму першае месца яе працы – сельская бібліятэка. Потым восем год загадвала бібліятэкай вайсковай часці, паступіла на бібліятэчны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага. Працавала ў метадычным аддзеле Брэсцкай абласной бібліятэкі, калі ёй у 1974 годзе прапанавалі ўзначаліць аддзел беларускай літаратуры і краязнаўства.

З цягам часу аддзел буйнейшай бібліятэкі вобласці стаў непасрэдна краязнаўчым, замацаваўся для вобласці сапраўдным цэнтрам краязнаўчай інфармацыі. Славіцца унікальным фондам літаратуры, дзе ёсць усё, што надрукавана пра нашу вобласць. Сюды прыходзяць са сваімі пытаннямі школьнікі, студэнты, выкладчыкі, усе зацікаўленыя, каму патрэбна інфармацыя па розных аспектах жыцця вобласці. Бываюць у гасцях пісьменнікі-земляк, пра творчасць якіх скрупулёзна збіраюцца звесткі. Шмат сяброў сярод неабыякавых да краю адшукалі супрацоўнікі, яны вядуць актыўную перапіску з вядомымі выхадцамі з Палесся, супрацоўнічаюць з краязнаўцамі Бяла-Падляскага павета Рэспублікі Польшча.

Загадвала Ніна Гурская аддзелам краязнаўства пятнаццаць год да выхаду на пенсію. Перадала пасаду кіраўніка сваёй выхаванцы Таццяне Кавенька, якая працягвае і творча развівае краязнаўчую працу ў калектыве. Напрыклад, цяпер ствараецца аўтаматызаваная база даных.

Ніна Аляксееўна яшчэ колькі год працавала бібліёграфам, абслугоўвала чытачоў, вяла картатэкі. Пайшла на заслужаны адпачынак ненадоўга. Яе папрасілі папрацаваць яшчэ колькі месяцаў, каб перадаць вопыт, веды і любоў да кнігі і краю маладым супрацоўнікам. Ніна Аляксееўна згадзілася, ды як адмовіцца?! Добра, калі ў кожнай прафесіі адшукваецца магчымасць перадаць багаты творчы патэнцыял новаму пакаленню. У Ніны Гурскай – самы вялікі стаж бібліятэчнай працы сярод супрацоўнікаў абласной бібліятэкі – пяцьдзесят гадоў! Сяброўская атмасфера калектыву не ў малой ступені забяспечваецца актыўнай жыццёвай пазіцыяй Ніны Аляксееўны. А якая яна спявачка, колькі ведае народных песень!..

На гэтых днях сябры і калегі павіншавалі Ніну Аляксееўну з 70-годдзем, а сярод падарункаў персанальная выстава "З бібліятэкай на "Вы". Прадстаўлены фотаздымкі, шматлікія граматы за плённую працу і грамадскую дзейнасць, краязнаўчыя публікацыі юбіляркі, выданні па бібліяграфіі Берасцейшчыны.

*Уладзімір СУХАПАР,*
*галоўны бібліёграф*
*Брэсцкай абласной*
*бібліятэкі імя М. Горкага*

*Вытворчыя музеі*

# Баранавічы: ажылая гісторыя чыгункі

У Баранавічах – знакамітым і гісторыяй чыгункі горадзе – нядаўна адкрыты музей чыгуначнай тэхнікі. Дакладней: філіял музея гісторыі Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі. Падзея, пагадзіцеся, значная.

Значная ўжо таму, што для ўвагі экскурсантаў – жывая, калі можна так сказаць, тэхніка. Тэхніка, якая і зараз, калі запалілі кацёл, гатовая была б рухацца. Да ўвагі ўсіх, хто любіць усялякі рух, – паравозы векавой і паўвекавой гісторыі.

Чыгуначная тэхніка знаходзіцца ў надзвычайнай гатоўнасці. Здаецца, вось-вось выскачыць ці не з-пад саменькага паравоза той, Міхасём Лыньковым да дэталяў выпісаны Міколка-паравоз. Ці можа каторы з герояў пісьменніка з чыгуначнай біяграфіяй Хвядоса Шынклера... І мы пойдзем услед за імі ў пачатак мінулага стагоддзя альбо ў 1920-я, 1930-я гады. Пойдзем, каб спрычыніцца да часу, які ўжо даўно лічыцца гісторыяй.

Ёсць свая рамантыка ў любаванні атрыбутамі чыгуначнай справы. У паравозах і вагонах, якія і сапраўды пры жаданні могуць стаць дзеючымі, баранавіцкія музейшчыкі (а ў іх штат, як правіла, ідуць людзі, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да чыгункі, працавалі ці то машыністамі, ці іх памочнікамі) змясцілі шмат што з адмысловага абсталявання. І нават калі дагэтуль прафесія чыгуначніка была для вас нечым невядомым, паверце, прафесійны лікбез вы ў музеі атрымаеце абавязкова. А, мо, хто з юных экскурсантаў і загарыцца жаданнем пайсці працаваць на чыгунку?..

Знаёмства ў Баранавічах з музеем дзеючай чыгуначнай тэхнікі падштурхнула і да наступных разваг: чаму б не стварыць у краіне Музей прафесій? Мара, канешне ж, але і вартая ўвагі мара. Юныя, маладыя хіба не павінны рабіць прыгожы выбар асэнсавана, ведаючы як рамантыку, так і рэаліі будучай справы ўсяго свайго жыцця?..

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

# "Узрос з пасеву на сірочым полі..."

*Прастор палёў з дзяцінства родны.*
*Прастор лугоў з красой лагоднай.*
*Прастор гаёў, лясных абшараў,*
*Прастор маіх юначых мараў.*
*Край прыгажосці, еду зноў*
*Да родных мілых берагоў.*
*Бягу ад тлуму гарадскога*
*Да ласкі поля дарагога...*

Гэта радкі з верша нашага земляка Віктара Пятровіча Сташчанюка. Нядаўна сябра Саюза мастакоў Беларусі быў госцем Карэліцкага краязнаўчага музея "Зямля і людзі". У лістападзе мінулага года адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы твораў пад назваю "Дрэмле памятка дзён..."

Для культуры раёна адкрыццё выставы твораў Віктара Сташчанюка – падзея значная. Упершыню жыхары раёна маюць магчымасць пазнаёміцца з творчасцю свайго земляка, мастака, які нарадзіўся на карэліцкай зямлі, у вёсцы Сёгда.

Нарадзіўся Віктар Пятровіч, са слоў маці, праз два тыдні пасля Юр'я, у 1933 годзе (летась мастак адзначыў сваё 70-годдзе). Ціхая вёсачка Сёгда ў Райцаўскім сельсавеце назаўсёды засталася ў памяці мастака светлым успамінам. Тут прайшлі яго дзіцячыя гады, тут ён скончыў школу, тут атрымаў пуцёўку ў жыццё.

Немагчыма забыць ні пяшчотныя рукі матулі, якую напаткала нялёгкая ўдовіна доля, ні сінь валошак у хвалях нівы, ні звонкія песні дзяўчат, ні грукат жорнаў колішняга млына.

*Я ўзрос з пасеву на сірочым полі.*
*Не раз патоптаны і збэрсаны быў лёсам.*
*Мой дух выпростваўся да сонца і да волі*
*І рыхтаваў к жыццю мае калёсы... –*

пісаў мастак у адным са сваіх вершаў.

Дарэчы, гэта яшчэ адна грань таленту нашага земляка. У 2002 годзе выйшаў зборнік вершаў Віктара Сташчанюка "У прасторы часу", упрыгожаны яго малюнкамі.



У пачатку 1950-х гадоў дваццацігадовы Віктар Сташчанюк скончыў Навагрудскі тэхнікум гандлю, некалькі гадоў працаваў па спецыяльнасці, а пасля служыў у арміі, у канцы 1950-х гадоў пераехаў у Мінск, дзе неўзабаве пачаў наведваць студыю выяўленчага мастацтва пры Мінскім палацы прафсаюзаў. Так пачаліся яго першыя крокі ў мастацтве. А потым была вучоба на вячэрнім аддзяленні мастацкай керамікі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, праца архітэктарам і мастаком. А дыпломнай работай мастака стала афармленне навагрудскага кафэ "Гражына". Вобраз легендарнай жанчыны, гераіні паэмы Адама Міцкевіча, натхняў і акрыляў мастака (на вялікі жаль, праект гэты застаўся не ажыццёўлены).

Мастацтвазнаўчыя экспедыцыі, у якіх мастак браў удзел у 1960–1970-я гады, абудзілі яго цікавасць да мінулага Беларусі, далі магчымасць зрабіць шэраг замалёвак для будучых выстаў.

Вынікам спробы мастака зазірнуць у мінулае стала гістарычная рэканструкцыя замкаў, архітэктурна-пейзажных комплексаў старажытных гарадоў Беларусі. Некалькі работ з гэтай серыі прадстаўлена на нашай выставе (гістарычная рэканструкцыя Полацка і Навагрудка).

Працы В. Сташчанюка сёння можна ўбачыць і на старонках кніг, і ў музеях. Яны ёсць у Нацыянальным музеі Беларусі, у літаратурных музеях М. Багдановіча, Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Заслаўскім гісторыка-культурным запаведніку, Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі, музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, бібліятэцы імя Л. Талстога, музеі медыцыны. Яго творы ёсць у прыватных калекцыях не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі – у Германіі, ЗША, Польшчы.

З 1976 года В. Сташчанюк удзельнічае ў мастацкіх выставах. Калі разглядаеш творы мастака, на якіх перад намі паўстаюць то Наваградскі замак, то Каложская царква, то Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, то стары млын, – тыя мясціны, дзе, па словах класіка, "дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі", – адчуваеш, што прасякнуты яны пачуццём шчырай любові да роднай зямлі, павагі да яе гераічнага мінулага. Мастак імкнецца занатаваць для нашчадкаў сляды слаўнага мінулага нашай Бацькаўшчыны.

*На горах наваградскіх вежы –*
*Каменная веліч стагоддзяў.*
*Стаяць над зялёным бязмежжам*
*З прасторай і небам у згодзе.*
*Тут вечнасць ў руінах застыла.*
*Тут продкаў забытая слава.*
*Тут духа стваральная сіла*
*Былой Наўгародскай дзяржавы.*
**("Наваградскі замак")**

Душа мастака баліць і не можа змірыцца з тым, што там, дзе некалі "жыццё шумела і красавала ўсім суквеццем красак", агонь жыцця паступова згасае. Яго хвалюе пытанне, ці здолеюць дапытлівыя нашчадкі адшукаць сляды гэтага мінулага жыцця, захаваць і аднавіць тое, што беражна захоўвае чалавечая памяць.

*... О бераг мой маленства дарагога!*
*Не ведаў я, што ён зусім не вечны,*
*Што бег жыцця такі вось хуткацечны*
*І літасці не мае ні да чога...*
*Мой светакрай маленства узнаўляю*
*Я пратакольна пэндзлем на кардоне.*
*І страчаны пейзаж паволі ажывае*
*Перада мною на маіх далонях...*
**(«Там, каля млына...»)**

Творчасць Віктара Сташчанюка вельмі разнастайная. Ён займаецца жывапісам, малой пластыкай (на выставе ёсць некалькі такіх работ з выявамі гістарычных асоб), кніжнай і станковай графікай. Большасць работ мастака, прадстаўленых на нашай выставе, – гэта акварэлі. На ўрачыстым вернісажы наведвальнікі змаглі ўбачыць і набыць кнігу Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род", якую аформіў мастак.

Кожны з нас трымаў у руках паштовыя канверты і, напэўна, звяртаў увагу на цікавыя паштовыя мініяцюры і маркі, прымеркаваныя да юбілеяў знакамітых землякоў і прысвечаныя беларускім гарадам. Віктар Сташчанюк стварыў вялікую серыю паштовых мініяцюр, якія можна ўбачыць на выставе ў музеі.

За сваю працу ў мастацтве наш зямляк Віктар Сташчанюк узнагароджаны медалём Саюза мастакоў Беларусі.

Са словамі віншавання і пажаданнямі творчых поспехаў, натхнення і далейшай плённай працы дзеля Бацькаўшчыны да мастака звярнуліся супрацоўнікі музея, землякі паэта, мясцовыя паэты Іван Жук і Іван Вярбіцкі. Узнёсла прагучалі ў час урачыстасці вершы Віктара Сташчанюка ў выкананні вучняў карэліцкай СШ № 1.

Выступаючы перад прысутнымі, мастак расказаў пра свой жыццёвы і творчы шлях, падзякаваў за асабліва цёплую атмасферу ў зале падчас прэзентацыі выставы і перадаў у дар музею малюнкі і замалёўкі гістарычных помнікаў Карэліцкага раёна, у тым ліку славутага Мірскага замка.

Мы спадзяёмся, што знаёмства наведвальнікаў музея з творчасцю нашага земляка толькі пачынаецца, і плануем арганізаваць новыя выставы для далейшага знаёмства з яго творамі.

*Святлана КОШУР,*
*старшы навуковы супрацоўнік*
*Карэліцкага краязнаўчага музея*
*"Зямля і людзі"*





*Школьнае краязнаўства*

# Памяць пра вёскі

У вёскі Латыголь Глыбоцкага раёна, у яе жыхароў ёсць свае трагічныя старонкі. У адной з іх вінен і аднавясковец, здраднік Уладзіслаў Рыжы. Ён добраахвотна і свядома пайшоў служыць у рады «Беларускай самаахувы», што размяшчалася ў Глыбокім. Фарміраваннем кіраваў усім вядомы ў ваенныя гады Вятвіцкі. Пасля даносаў бацькі У. Рыжага, які разам з жонкай і дачкой заставаўся жыць у вёсцы, рабіліся засады на партызанаў, налёты ў навакольныя вёскі. Партызаны расправіліся з Рыжым-старэйшым. Уладзіслаў забраў маці і сястру ў Глыбокае. Помсцячы, пагражаў знішчыць вёску дашчэнту. 13 чэрвеня 1943 года Латыголь сапраўды была спалена.

Цяпер на месцы расстрэлу мірных жыхароў стаіць абеліск, узведзены студэнтамі Віцебскага медыцынскага інстытута.

Ад 17 красавіка да 5 мая 1944 года супраць партызанаў і мірнага насельніцтва Полацка-Лепельскай зоны праводзілася карная аперацыя пад кодавай назвай «Веснавое свята». У час яе правядзення было знішчана шэраг вёсак былога Пліскага раёна. У вёсках Ліпава, Ліпляні і Перавоз карнікі спалілі 28 мірных жыхароў. З вёскі Надазер'е карнікі расстралялі 20 грамадзянаў, а з іх трупаў зрабілі мост праз меліярацыйную канаву, каб рухацца далей.

...Непадалёк ад дарогі, на маляўнічым месцы каля вёскі Лаўрынаўка, стаіць памятны знак на ўшанаванне жыхароў 17 спаленых вёсак раёна. Шматпакутныя вёскі Ларынаўка, Галубічы, Мурзы, Слабада, Барыкоўшчына, Чашкі, Бабуліна, Калечполле, Скрабатуны, Гарані, Галінова, Латышы, Вострава, Халы, Пліса, Надазер'е, Вуглы... Бетонны дах хаты, 17 мармуровых плітаў з назвамі вёсак, прысады з блакітнымі елкамі і туяй. І вечны агонь – сімвал жыцця на зямлі...

*(Паводле газеты "Мир в XXI век")*



*Нядаўна славуты князь Усяслаў Чарадзей пасяліўся ў Старых Дарогах. Адбылося гэта дзякуючы скульптару з Чэрвеня Генадзю Матусевічу і грамадскаму дзеячу Анатолю Беламу. Першы выразаў скульптуру з дрэва, другі размясціў яе ў старадарожскім музеі выўленчага мастацтва. Больш як двухметровы полацкі гаспадар сустракае гасцей, наведвальнікаў музея.*

# Мядзведзі ў Беларусі

Даўным-даўно ў беларускіх лясах жылі такія буйныя жывёлы, як тур, зубр (успомнім «Песню пра зубра» М. Гусоўскага), мядзведзь («Смаргонская акадэмія»), лось, алень, воўк (воіны летапіснай Літвы, што была паміж сённяшнімі Маладзечна, Мінскам, Навагрудкам і Слонімам, любілі гэтага шпаркага, нябегліага і драпежнага звера, чаплялі на сябе яго скуру і мызу, каб застрашыць непрыяцеля) і г.д.

Ад тура засталася, можа, адна толькі назва; зубры ёсць і не толькі ў Белавежскім запаведніку, забрыдаюць яны і ў Налібоцкую пушчу; аленяў, здаецца, няма; лісі, ваўкі, а з імі і дзікія свінні ды козы яшчэ ёсць. А вось пра мядзведзяў – загадка. Нядаўна ў друку прамільгнула звестка, што яны зноў заявіліся на Брэстчыне ў некалькіх раёнах пасля доўгага перапынку, пасля Першай сусветнай вайны. Праўда, былі сведкі, што бачылі іх і ў 1930-я, нават у 1960-я гады, але яны нібыта сышлі ад неспрыяльных для сябе ўмоў пры механічнай і, галоўнае, варварскай выразцы лесу, спрамленні малых рэк і асушэнні балот, калі не маглі спакойна і сытна паесці, пабавіць час, а ўзімку цiхамірна паспаць у бярлозе. Ёсць і сведкі (вельмі сур'ёзныя людзі), якія сустракаліся з мядзведзем і ў 1970–1980-я гады ў Налібоцкай пушчы, паблізу стаўбцоўскіх Кляцішчаў. Магчыма, гэта быў па нейкіх прычынах сагнаны з далёкіх родных мясцін мядзведзь-бадзяга. Ёсць і сярод дзікага нашага брата такія, і яны вельмі небяспечныя.

Калі пацвердзяцца чуткі пра вяртанне мядзведзяў у нашыя лясы, то гэта будзе і пацверджаннем таго, што мядзведзь, як і чалавек, здольны выжываць у самых неспрыяльных умовах.

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

*Мястэчкі*

# Адно са старажытных на Стаўбцоўшчыне

Калі ехаць па аўтамагістралі Стоўбцы–Івянец, у 30 кіламетрах ад горада Стоўбцы, у маляўнічым куточку Беларусі, перад Налібоцкай пушчай, знаходзіцца вёска Дзераўная. Многа цудоўных помнікаў архітэктуры стварыў беларускі народ. У іх ліку – мясцовы касцёл. Цікавую гісторыю мае і сама вёска.

Назва Дзераўная, напэўна, пайшла ад слова «дзёрн» або «дзірван», што, перш за ўсё тут, у пушчы, азначала месца раскарчоўкі лесу. Магчыма, і ад «дрэва», «дзерава».

Дзераўная з'яўляецца адным з найбольш старажытных паселішчаў на Стаўбцоўшчыне. Вядомая з пісьмовых крыніц першай паловы XV стагоддзя як маёнтак кашталяна віленскага Сямёна Гедыголдавіча. З 1451 года і прыкладна да 1485 года маёнткам Дзераўная ўпраўляла жонка Сямёна – Мілохна Кежгайлаўна. Пасля яе смерці Дзераўная становіцца ўласнасцю прадстаўнікоў малодшай лініі роду Кежгайлаў. У 1525 годзе вялікі князь літоўскі Жыгімонт I дазваляе Мікалаю Кежгайлу заснаваць у маёнтку Дзераўная мястэчка і наладзіць у ім торгі і корчмы. Пасля смерці ў 1554 годзе апошняга з Кежгайлаў – Станіслава Дзераўная пераходзіць да іх нашчадка Яна Завішы. Ён запісвае маёнтак сваёй жонцы Эўфіміі Вяржбіцкай. У далейшым часе Дзераўная пераходзіць да другога мужа Эўфіміі князя Вішнявецкага.

З 90-х гадоў XVI стагоддзя Дзераўная і 8 навакольных вёсак становяцца ўласнасцю Мікалая Крыштафа Радзівіла (Сіроткі) у выніку яго шлюбу з дачкой уладальніцы мястэчка Гальшкай Вішнявецкай. У 1551 годзе мястэчка складалася з рынка і трох вуліц (на Налібакі, да Турэцкага перавозу і да двара).

Касцёл у Дзераўной мае даволі няясную пачатковую гісторыю. Лічыцца, што заснаваны як кальвінскі збор па фундацыі Мікалая Крыштафа Радзівіла і Галькі Эўфіміі Вішнявецкай паводле волі Эўфіміі Вяржбіцкай (жонкі ваяводы Андрэя Вішнявецкага). Аднак у інвентары 1716 года пададзена копія фундушнага дакумента на касцёл у Дзераўной, што быў складзены ў Нясвіжы 10 лістапада 1590 года. У ім гаворыцца, што 28 студзеня 1590 года пры пахаванні ў Дзераўной Эўфіміі Вяржбіцкай прысутнічалі Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, Мікалай Сапега і Ежы Чартарыскі з жонкамі – роднымі сёстрамі Галькай Эўфіміяй, Ганнай, Аляксандрай – і яшчэ адной незамужняй дачкой нябожчыцы Зоф'яй Вішнявецкай. Яны абмеркавалі волю іх маці, якая заснавала касцёл (ці, верагодна, мела намер заснаваць). Радзівілы паабяцалі плябану ксяндзу Ежы Рацыбароўскаму паставіць касцёл. «Згодна волі і ўпадабання свайго даём на той касцёл Дзеравенскі там жа ў Дзераўной пляц здаўна царкоўны, на якім казнадзей зборавы міністр мешкал, з агародамі, з валокамі двума грунту ворнага, з падданымі на тых валоках, да таго пляцу царкоўнага, альбо казнадзейскага, належачымі так тэж, з будаваннем, якое на тым пляцу ёсць». Фундатары паставілі ўмову, каб ксёндз трымаў вікарыя для спеваў і навучання дзяцей.

Ёсць яшчэ звестка ў генеалагічнай гісторыі Радзівілаў, дзе ў ліку храмаў, пабудаваных Мікалаем Крыштафам Радзівілам паводле планаў архітэктара Давані Марыі Бернардоні, называецца і касцёл у Дзераўной. (Сцены касцёла вымураваныя з цэглы-пальчаткі, з якой будавалі іншыя тагачасныя святыні.)

У інвентары 1593 года адзначаны ў стадыі будаўніцтва, без вежы-званіцы на галоўным фасадзе. У другой палавіне XVII стагоддзя надбудавана вежа, у пачатку XVIII стагоддзя касцёл адрэстаўрыраваны. Помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу (помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння).

У 1593 годзе ў мястэчку налічвалася 49 двароў і каля 350 жыхароў. Прыкладна ў гэты ж час з'явілася і чацвёртая местачковая вуліца – на Ніўнае. Панскі двор у Дзераўной у канцы XVI стагоддзя уяўляў сабой комплекс жылых і гаспадарчых будынкаў. У сядзібным доме захоўваліся зброя, каштоўныя рэчы, кнігі. На тэрыторыі маёнтка размяшчалася верф («сточня») для будаўніцтва рачных караблёў-віціных. Рака Шура, якая працякала каля мястэчка, упадала ў раку Усу (прыток Нёмана).

У 1646 годзе у Дзераўной быў ужо 71 двор, а сярод яе жыхароў значылася 26 рамеснікаў (цеслі, столяр, шкляр, краўцы, млынар і іншыя). У XVII–XVIII стагоддзях пры касцёле існавалі школа і шпіталь. У 60-я гады XVII стагоддзя мястэчка моцна пацярпела ў выніку войнаў. У 1665 годзе з 87 дзераўнянскіх двароў 46 было «незаселеных» (пустых). У 1727 і 1786 гадах у Дзераўной было адпаведна 39 і 49 двароў. З 1793 года Дзераўная ў складзе Расійскай імперыі. Мястэчку неўзабаве быў нададзены статус цэнтра воласці Ашмянскага павета Віленскай губерні. Дзераўной пасля Радзівілаў па чарзе валодалі Абуховічы і Чапскія. У 1810 годзе ў мястэчку былі Касцёльная, Навагрудская, Дворная і Мінская вуліцы, на якіх налічвалася 46 двароў. У 70-я годы XIX стагоддзя ў Дзераўной было 34 двары, 306 жыхароў, касцёл, капліца, бровар, 5 лавак, прытулак для бедных.

Капліца на вясковых могілках пабудавана ў XIX стагоддзі з дрэва. У 1979 годзе вернута вернікам, адрамантавана. Помнік народнага драўлянага дойлідства з утрыраванымі формамі архітэктуры класіцызму. Адназрубны прамавугольны ў плане аб'ём пераходзіць у трохгранную апсіду. Галоўны фасад афармлены чатырохкалонным порцікам, трохвугольны франтон якога вянчае васьмігранная сігнатурка-званіца. Сцены гарызантальна ашаляваны і расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі. Зала перакрыта плоскай столлю.

У 1897 годзе ў Дзераўной было 125 двароў, дзе жыло 823 жыхары, значылася аптэка, гарбарня, карчма, адзінаццаць крам.

У 60-х гадах было заснавана трохкласнае народнае вучылішча. У 1921 годзе пабудавана сямігадовая школа. У час першай сусветнай вайны за мястэчкам, за ракой Шура праходзіла лінія фронту. З 1921 года Дзераўная ў складзе Польшчы.

Да 1939 года Дзераўная лічылася вялікім мястэчкам, у якім было 120 двароў (500 жыхароў). Цэнтрам яго лічылася невялікая прамавугольная плошча (форма яе захавалася і цяпер). На плошчы былі гасцініца (дзе знаходзіўся павільён магазіна «Мэбля»), рэстаран (на тым месцы зараз пабудавана хата Ч. Л. Ванькові ча), паўшэхны магазін. У вёсцы было 6 крам, уласнікамі якіх былі яўрэі.

Хаты стаялі цесна адна ля другой. У час пажару ў 1943 годзе вёска амаль згарэла. Таму дзераўнянцаў сталі называць «папельшамі» (ад слова попел). Вуліцы былі брукаваныя, абапал іх – тратуары. На цэнтральнай Касцельнай вуліцы тратуары былі выкладзены з пліт, на астатніх – з каменю. Назвы вуліц былі такія: Касцельная (цяпер Ваньковіча), Азёрная (Панамарова), Барэцкая (Калгасная), Залатая Горка (канец цяперашняй Калгаснай ад Маладзёжнай да Цэнтральнай), Мірская, Пясчаная, Стаўбцоўская. На Стаўбцоўскай вуліцы на месцы цяперашняй школы была цагляная школа-сямігодка. Навучанне вялося на польскай мове. Недалёка ад касцёла размяшчалася гміна. Бальніцы не было, але былі два дактары – Зенкевіч і Вілім. Яны вялі прыём хворых на кватэрах. Клуб быў на Пясках, за могілкамі. Там, крыху далей, на месцы сучаснай звалкі, ці сметніку, быў кірмаш. Увогуле кірмашоў у Дзераўной было два: адзін – на плошчы, другі – за могілкамі.

На плошчы гандлявалі прадуктамі харчавання, таварамі хатняга ўжытку, вырабамі народных умельцаў. Тавары прывозілі з усёй акругі. Вазы стаялі па ўсіх навакольных вуліцах, гандлёвыя рады, будкі – на плошчы. Славутыя калбасы прывозілі Гаптар і Бычынскі. Яны мелі свае мясныя лаўкі, а вэнджаныя каўбасы і мяса вывозілі на рынак. Гандлявалі кашамі, драўлянымі лыжкамі, міскамі, ночвамі; а з Прудоў прывозілі вапну у галках (круглы шар); яўрэі гандлявалі кандытарскімі вырабамі.

На другім кірмашы за могілкамі гандлявалі жывёлай. Там можна было купіць каня, карову, цяля, авечку, свінню ці парася. Гандлявалі там і харчам для жывёлы – сенам, саломай, збожжам...

Мы так абкрадваем сябе, абсякаючы сувязі і карані з векавой нашай гісторыяй. Хацелася б, каб гэта крупелька гісторыі вёскі Дзераўная і касцёла Звеставання непарочнага зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі дапамагла пераадолець небяспечную хваробу абыякавасці да гістарычных каранёў і духоўных традыцый папярэдніх пакаленняў. Чалавеку разумнаму сёння, як і ва ўсе часы, патрэбны духоўныя арыенціры і веданне сваёй гісторыі.

**Васіль СУДНІК,**
*настаўнік гісторыі Дзераўнянскай СШ Стаўбцоўскага раёна*

*Асобы ў краязнаўстве*

# Якое імя тваё, вёска,

## або Чаму знікалі гістарычныя назвы паселішчаў?



*Там, дзе вёска была...*
*Фота Міхася ХАМЦА*

У нашым раёне налічваецца амаль 200 вёсак. Многія з іх у сваіх назвах захоўваюць каштоўныя звесткі пра мінулае жыццё продкаў, адлюстроўваюць іх заняткі, этнічны склад. Да іх, перш за ўсё, адносяцца Рудня, Стараселле, Галоўчын, Дручаны, Гута, Пушча, Малінаўка і іншыя.

На жаль, на працягу 30–70-х гадоў мінулага стагоддзя ў прыдруцкім краі знікалі гістарычныя назвы населеных пунктаў. І толькі па той прычыне, што яны, маўляў, немілагучныя і састарэлыя. Прыкрываючыся гэтай шырмай і не пытаючыся згоды ў мясцовых жыхароў, партапаратчыкі змянілі назвы больш чым дзесяці вёсак. Так, на тэрыторыі калгаса «Камінтэрн» здаўна існавалі вёскі Каліноўка, Засценкі, Лісічкі.

Праўда, у Айчынную вайну 1941–1945 гадоў, калі наш раён быў часова акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, гітлераўцы разабралі хаты ў пасёлках Ленінскі і Кастрычнік і бярвеннямі ацяплялі свае баракі ў Галоўчыне. Пасля вайны гэтыя паселішчы не аднавіліся, і сёння на іх месцах раскінуліся калгасныя палеткі.

Не захавалі свае імёны і вёскі Царковішчы, якіх у нашым раёне было дзве. Каб выбіць з галоў людзей памяць пра рэлігію, камуністы памянялі іх назвы. Такім чынам у Цяхцінскім сельскім Савеце з'явілася Каліноўка, а ў Ланькаўскім – Акцябрына.

Да 1948 года ў Запольскім сельсавеце існавала вёска Глыбокі Брод. Яе перайменавалі ў Кіраўку. Але, на здзіўленне, новая назва тут не прыжылася. Сёння яна па-ранейшаму мілагучна гучыць у сваім адвечна-гістарычным варыянце.

Вёска Лісічкі размяшчалася недалёка ад Сярмяжанкі (цяпер Асман-Касаева). Да яе ўшчыльную падступаў лес, у якім было шмат грыбоў, у тым ліку і лісічак. Камусьці, відаць, недаспадобы была гэта назва. І вось без дай-прычыны перайменавалі ў пасёлак Ленінскі.

Вёска Леніна ёсць і ў Ланькаўскім сельсавеце.

У 1930-х гадах выношвалася таксама ідэя аб перайменаванні Бялынічаў. У дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці захаваўся дакумент, які, у прыватнасці, сведчыць, што член бюро Бялыніцкай валасной камуністычнай ячэйкі нейкі Кветняк у лютым 1924 года прапанаваў увекавечыць памяць У. І. Леніна і перайменаваць г. п. Бялынічы ў Ленінск. Накont гэтага камуністы нават хадайнічалі перад вышэйшымі органамі савецкай улады. Дзякуй Богу, што гэтага не адбылося, і гістарычная назва нашага пасёлка засталася ранейшай.

Кажуць, што без меры няма веры. І сапраўды, спіс вышэйзгаданых назваў вёсак, якія нагадвалі хутчэй мянушкі, дапаўнялі ўсё новыя і новыя. У 1970-х гадах вёску Гараватку назвалі Савецкай, Блёўку – Усходам, Пупсу – Майскам. А ў Лебядзянкаўскім сельсавеце з'явіліся Чырвоная Зорка, Чырвоны Сад, Чырвоная Слабада. Прытым яны знаходзяцца на невялікай адлегласці адна ад адной. Навошта было да ўсіх дапасоўваць прыметнік «чырвоны»?

Варта зазначыць і тое, што некаторыя назвы нашых вёсак не адпавядаюць беларускай тапаніміцы, захоўваюць у сабе грубыя арфаграфічныя памылкі. У Ланькаўскім сельсавеце ёсць пасёлак Пабеда, вёска Краснагор'е, а ў Лебядзянкаўскім – Вазраджэнне, Асноўны і г.д.

Не упрыгожвае наша жыццё і тое, што чыноўнікі, як і самі людзі, не клапоцяцца пра мясцовую тапаніміку. У раёне некалькі калгасаў носяць аднатыпныя назвы імя Леніна, «Запаветы Леніна», «Ленінскі заклік», імя Ільіча, імя Энгельса, імя Кірава. Цяпер ідзе рэфармаванне аграпрамысловага комплексу, і якраз наступіў час даць ім новыя найменні.

Тапаніміка – важная крыніца вывучэння гісторыі, геаграфіі, археалогіі і мовы народа. І вельмі прыемна, што большасць вёсак нашага раёна захавалі свае ранейшыя назвы, якія так захапляюча і прыгожа вымаўляць – Курганне, Пустасёлы, Паўлінка, Скаварodка, Сцяпанаўка, Сялянская Клёўка... Іх назвы жылі, жывуць і з'яўляюцца для нас жыватворнымі сокамі.

*Віктар СУХАРАЎ,*
*«Бялыніцкая даўніна»*

# КАЛЯ ЗАМШЭЛАГА ВАЛУНА

*По сваім жанры новую літаратурную знаходку можна аднесці да гутарак, якіх наша літаратуразнаўства налічыла да паўтара дзесятка. Большасць з іх ананімныя альбо асцярожна прыпісваюцца розным аўтарам. З'ява гэта на Беларусі была нярэдкай, і ў наш час яна яшчэ слаба вывучана. А вершаваныя апавяданні хадзілі ад вёскі да вёскі, шліфаваліся, узбагачаліся моўным каларытам, а часам яшчэ і абрасталі мясцовымі «гісторыямі». І атрымліваліся тады новыя варыянты твораў. Аўтары іх і пераказчыкі з гадамі забываліся, адыходзілі ў небыццё, а іх спадчыну падхоплівалі і «калыхалі» іншыя вёскі, новыя Данілы і Сцяпаны.*

*Менавіта ў духу беларускай традыцыі XIX стагоддзя стваралася знойдзеная мною нядаўна "Гутарка Сталюка". Аўтар яе, напэўна, не асабліва клапаціўся пра ўласнае імя літаратара, для яго было б досыць і таго, каб вершы гэты пачулі ў курных хатах і запомнілі мудрыя пераказчыкі-гутарнікі.*

Пра што ж апавядае стары Сталюк? Пра родныя мясціны, пра знаёмых людзей, якія часта збіраюцца ў хату збяднелага шляхціца Ігната.

*Гэй у нашага Ігната*
*Ды ў яго Казімеры*
*Невялічка сабе хата.*
*Вузкі вокны, нізкі дзверы.*
*Ад парога недалечка*
*Камінэк і з цэглы печка.*

Перад чытачом праходзяць розныя тыпы фанабэрыстай і нікчэмнай шляхты: Амодзібур, "што паганай быў натуры", Вінцэнт, які гатоў разадраць кухмістра на кавалкі толькі за тое, што той назваў яго па-сялянску Вінцуком. Для іх найвялікшая абраза – гаварыць на роднай мове, і каб падкрэсліць сваё "высокае" становішча, яны хоць і нязграбна, але гавораць па-польску, «модзяцца», падхвальваюць сваю знатнасць. Усё гэта выглядае недарэчна і смешна. У Ігнатаву хату, якая стаяла на бойкай дарозе, заходзілі купцы, дробныя чыноўнікі і проста праезджыя, а значыць, і навін тут было поўна. Вось чаму зачасцій сюды Сталюк. Ён многа спісаў з натуры.

«Гутарка Сталюка» – даволі вялікі вершаваны твор, займае адзінаццаць старонак вучнёўскага сшытка. Апавяданне атрымалася расцягнутае, і гэта можна растлумачыць тым, што аўтар перанасыціў свой твор усякімі здарэннямі, не аналізуючы і не ацэньваючы іх вартасці. Час напісання гутаркі – хутчэй за ўсё 1870–1890-я гады, паколькі ўжо ўпамінаецца чыгунка (магчыма, гэта адзіная гутарка, у якой апавядаецца і пра інжынера-чыгуначніка). Пры ўсіх хібах і праліках мастацкасці "Гутарка Сталюка" багатая лексічна, што бясспрэчна сведчыць пра глыбокае веданне аўтарам жывой мовы роднага краю. Несумненна, гэты твор можа зацікавіць і беларускіх этнографаў.

Імя аўтара стаіць у самой назве вершаванага апавядання, гэтым жа імем і заканчваецца твор:

*Нехжэ будзе на паперы*
*Аб Ігнаце і Казімеры.*
*Што пісаў Сталюк.*

Сапраўднае яно, гэтае імя, ці несапраўднае?

З дапамогай Веры Андрэеўны Тарашкевіч-Ніжанкоўскай – жонкі вядомага грамадскага дзеяча і вучонага Б. Тарашкевіча – удалося высветліць некаторыя моманты з біяграфіі Сталюка і знайсці яго ўнучку Марыю Ай. Яна прыслала кароценькія ўспаміны пра дзеда.

Сапраўднае прозвішча Сталюка – Станіслаў Валянцінавіч Замбжыцкі. Яго імя знітавалася з гісторыяй Вязынкі – радзімы Янкі Купалы, і гэтая акалічнасць выклікае ў чытачоў яшчэ большую цікавасць. Закладальнікам Вязынкі і Гурнавіч (зараз гэта ўжо адна вёска Вязынка) у 1807 годзе быў Валянцін Замбжыцкі, які ажаніўся з Юзэфай Ясенскай. У іх нарадзіўся ў 1823 годзе сын Станіслаў – будучы аўтар «Гутаркі Сталюка». Бацька памёр у маладым веку – у 1831 годзе, і Стась выхоўваўся ў недалёкіх Дзякшнянах. Як толькі ажаніўся з Алімпіяй Чакалоўскай[1], пасяліўся ў сваёй Вязынцы. Сельскай гаспадаркай ён ніколі не займаўся, бо меў пакалечаную нагу, і сваю зямлю заўсёды здаваў у арэнду. Якраз у 1880-х гадах у гэтым фальварку і пасяліўся Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч – бацька Янкі Купалы.

Станіслаў Замбжыцкі, вольны ад гаспадаркі чалавек, пад уплывам археолагаў, братоў Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, Адама Кіркора захапіўся помнікамі старажытнасці, апісваў мясцовыя курганы. Ён першы адкрыў мясцовае гарадзішча і заўважыў яго каштоўнасць для вывучэння старажытнай гісторыі. Гэта ж праз сто гадоў пацвердзіў археолаг А. Мітрафанаў.

С. Замбжыцкі запісваў легенды пра помнікі даўніны, пра паходжанне мясцовых геаграфічных назваў, а таксама беларускія народныя песні. Маючы з дзяцінства слабое здароўе, ён загартоўваў яго ўсімі магчымымі сродкамі. Нават на старасці купаўся зімой у рэчцы. Пражыў 84 гады і памёр 1 кастрычніка 1907 года, паспеўшы адзначыць стогадовы юбілей Вязынкі.

Цікавасць С. Замбжыцкага да беларускай культуры перадалася яго ўнучкам Алімпіі Свіневіч і Марыі Ай. Асабліва шмат захаплялася народнымі песнямі і ткацтвам А. Свіневіч (1902–1974), філолаг і біёлаг па адукацыі, яе муж чытаў лекцыі ў Віленскім універсітэце. Грамадская і навуковая дзейнасць захапіла Алімпію Замбжыцкую-Свіневіч яшчэ ў час вучобы ў Віленскім універсітэце імя Ст. Баторыя. Тады яна ўваходзіла ў склад Віленскага навуковага таварыства. Выхаваная на беларускіх народных традыцыях, яна з прагнасцю прыглядалася да абрадаў, запісвала іх. Напрыклад, некалькі работ яе прысвечаны «Дзядам». Пабываўшы ў Індanезіі і ў Кітаі, даследчыца зрабіла параўнанні нашых абрадаў з абрадамі гэтых народаў. Цікавілася таксама гісторыяй вёсак Вязынкі, Сяледчыкаў, Гурнавіч. Алімпія Свіневіч сабрала нямала матэрыялаў пра паўстанне 1863–1864 гадоў на Міншчыне, асабліва пра яго кіраўнікоў Вінцэнта Козела-Паклеўскага, Апалінара Свентаржэцкага, Міхаіла Аскерку і іншых. Зрабіла публікацыю пра кампазітара Міхала Агінскага.

Але ці не самым цікавым яе даследаваннем стала творчасць Адама Міцкевіча з пункту гледжання беларускіх уплываў. Вынікам такой пільнай увагі стала праца «Інтэрпрэтацыя міцкевічаўскіх "Дзядоў" на падставе беларускага фальклору». І сама гісторыя краю, багатая мясцовая этнаграфія, а асабліва фальклор, далі падставу Алімпіі Свіневіч зрабіць вывад, што гэты твор мае поўнае дачыненне да культуры Беларусі і можа быць яе актывам.

У 1920–1930-х гадах яна арганізоўвала на Маладзечаншчыне і ў іншых месцах былой Заходняй Беларусі выставы ткацтва і вышыўкі, запрашала на іх майстрых. Заадно дапамагала сялянкам прадаваць праз магазіны свае посцілкі, абрусы, сурвэты, дываны, ручнікі, дарожкі, тым самым яшчэ больш заахвочвала вясковых жанчын да ткацтва і вышывання. Алімпія Іосіфаўна Свіневіч запісала шмат беларускіх песень самых розных жанраў, а таксама апісала мясцовыя звычкі, абрады. На жаль, многае загінула ў часы ліхалеццяў. Яе самаахвярную натуру паважаў акадэмік Браніслаў Тарашкевіч і называў яе ідэалам кабеты.

*Генадзь КАХАНОЎСКІ,*
*з кнігі*
*«Адчыні таямніцы часу»*

[1] Паводле выпісу з метрычнай кнігі Радашковіцкага касцёла за 1882 год Алімпія Замбжыцкая была хроснай маці Янкі Купалы. Гл.: Пуцявінамі Янкі Купалы. Склаў Г. В. Кісялёў. Мн., 1981. С. 45.





Калі пішуцца гэтыя радкі, аўтару допісу ўспамінаюцца з горкай усмешкай радкі з інтэрв'ю аднаго нашага пасаднага чыноўніка з нагоды ягонай паездкі ў гэтую аддаленую ад нас скандынаўскую краіну: ён не толькі адзначыў вялікі культурна-эканамічны ўзровень, але і здзівіўся: там нават просты нарвежац-земляроб ведае сваіх продкаў самае малое ў 5–6 калене!

Гораснасць ад такога вось прымітыўнага здзіўлення: і ў нас некалі так было, не ва ўсіх, зразумела, але яшчэ ў Полацкім княстве не дапускалі да высокіх пасад тых, хто не ведаў сваіх продкаў самае малое ў 5–6 калене, хто не ведаў роднай мовы і культуры!!!

Ды і нарвежцы клапоцяцца не толькі пра сябе. Але і пра нас, далёкіх "савецкіх беларусаў". Гэта – настаўніца Сванхільд Валдстадстве,

*У людзей павучыцца*

# Цеплыня з далёкай Нарвегіі

якая ўжо амаль 10 гадоў дапамагае нашым пацярпелым ад чарнобыльскай аварыі дзецям. Яна з памочнікамі дзецьмі збірае сродкі, дапамагае набываць медыкаменты і медабсталяванне. Напрыклад, дзіцячаму санаторыю "Астрашыцкі Гарадок" знайшла на гэтыя мэты 200 тысяч долараў. Мы ўсе добра ведаем, якія скандынавы культурныя людзі, але дзеля дапамогі нашым дзецям, якія апынуліся ў нялёгкім становішчы, пані Сванхільд не прысутнічала на сынавым юбілеі, а прыехала ў Беларусь, дзе ў інваліднай калясцы чакаў іншы імяніннік, семнаццацігадовы Валодзя Гацуковіч, хворы на дзіцячы цэрэбральны параліч. Замежная госця абяцала юнаку набыць сінтэзатар: Валодзя добра спявае. І набыла, да ўсяго не «просценькі», як абмаўляўся юнак, а сучасны і дарагі, расчулена паслухала чуллівыя песні. Пані Сванхільд зноў дапамагла сродкамі санаторыю: уручыла новенькі сінтэзатар у дадатак да раней падараванага музыкальнага цэнтра і светамузыкі. Цяжка хворыя, у тым ліку і анкалагічна, але радасныя дзеці парадавалі спагадную і шчодрую апякунку сваімі песнямі і танцамі. А суправаджаючыя яе ў адказ парадавалі гаспадароў ігрой на піяніна.

Кожны год каля 3 тысяч дзяцей папраўляюць сваё здароўе ў санаторыі "Астрашыцкі Гарадок", з прыемнасцю адчуваюць цяпло з далёкай Нарвегіі (на вялікі жаль, не ўсім гэта ўдаецца зрабіць, хтосьці вельмі дачасна пакідае гэты свет).

Мінулы год ЮНЕСКА аб'явіла годам інвалідаў – лепш сказаць, павышэннем увагі, клопату, дапамогі ім. Пані Сванхільд пасільна, але шчыра робіць гэта на справе і дапамагае ратаваць нашу будучыню.

## Буг і Вісла – Брэст і Варшава

Нядаўна на Брэстчыну наведаліся некаторыя польскія заканадаўцы, каб сустрэцца з беларускімі ў межах міжпарламенцкага супрацоўніцтва.

Старшыня Брэсцкага аблвыканкама В. Даўгалёў на сустрэчы вылучыў ідэю аднавіць старажытны водны шлях з Чорнага мора ў Балтыйскае па рэках і каналах Украіны, Польшчы і Беларусі праз Брэст і Варшаву, а таксама расказаў пра тое, што робіцца брэсцкімі і польскімі гаспадарнікамі ў галіне эканомікі (будаўніцтва на Брэстчыне электрастанцыі, што будзе працаваць на польскім вугалі, збор на адным з брэсцкіх заводаў аўтобусаў сумесна з польскай фірмай). Зразумела, закраналіся пытанні транзіту праз Брэст у Еўропу скарбонкі памежжа – Палесся. Гэтыя і іншыя пытанні былі прыхільна сустрэты польскімі гасцямі.

*Нпавіны з Віцебшчыны*

# "Мір – у XXI стагоддзе!"



*У верасні 2000 г. сумесная пастановаю ўпраўлення адукацыі, камітэта па справах моладзі, упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама, Віцебскім абласным гісторыка-патрыятычным аб'яднаннем "Пошук" было прынятае рашэнне аб правядзенні ў Віцебскай вобласці эстафеты Памяці "Мір – у XXI стагоддзе!" Мэта гэтай акцыі – ажыўленне работы па патрыятычным выхаванні дзяцей і моладзі праз турыстычна-краязнаўчую і пошукава-даследчую дзейнасць, актыўны ўдзел ва Усебеларускай турыстычна-краязнаўчай экспедыцыі вучняў "Наш край: узмацненне інтэрнацыянальнага і эстэтычнага выхавання".*

*Асноўныя задачы Эстафеты Памяці "Мір – у XXI стагоддзе!" наступныя: азнаямленне з тэкстам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і тлумачэнне яго, выхаванне ў маладога пакалення грамадзянскасці, патрыятызму, любові да Радзімы, развіццё гуманных пачуццяў, павагі да слаўных спраў старэйшых пакаленняў і абаронцаў Радзімы, збор матэрыялаў пра наша мінулае, фізічная і маральная загартоўка і г.д.*

Гэта была ўжо другая вялікая патрыятычная акцыя на Віцебшчыне. Па выніках першай была выдадзена брашура з абагульненнем праведзенай работы. Мне, як арганізатару "Эстафеты патрыятычных спраў" (1997–2000), былі добра бачныя як поспехі, так і недахопы работы за тыя тры гады. Таму цяпер разам з раённымі арганізатарамі пачалі шукаць і новыя формы работы. А каб лепш вывучаць тое, што зроблена ў раёнах, звычайна выязджалі туды адным складам – загадчык аддзела патрыятычнай работы Н. Спрынгер, метадыст аддзела патрыятычнай работы Т. Марчык і я, кіраўнік цэнтра турызму.

Ушачным раёне былі цікавыя творчыя работы навучэнцаў на тэмы: "Вайна ў лёсе маёй сям'і", "Слёзы твае, Чарнобыль", "Мой населены пункт у XXI стагоддзі", "Узнагарода ў маёй сям'і" і інш. Многія з гэтых работ былі напісаны шчыра і ўзнёсла, у іх быў сапраўдны клопат і за свой родны кут, і за ўсю планету, радасць за магчымасць мірна жыць, вучыцца, тварыць.

Удзельнічаючы ў эстафеце Памяці з 2000 па 2003 год, навучальныя ўстановы з 27 раёнаў правялі 3 502 урокі Мужнасці, 909 лінеек Памяці, 1 447 сустрэч з ветэранамі вайны і 390 – з былымі вязнямі фашысцкіх канцлагераў, 54 сустрэчы за знакамітымі землякамі, падноўлены 374 памятныя знакі і брацкія магілы, аказана дапамога 388 ветэранам вайны і працы. Прыемна адзначыць, што з усіх сабраных матэрыялаў большая палова (431) мела краязнаўчы характар, была прысвечана вывучэнню гісторыі свайго края. У многіх школах аднавілася работа па напісанні школьных летапісаў. На выніковыя выстаўкі ў раёнах трапіла 1 244 летапісы школ і матэрыялы пра 158 дазаваенных выпускнікоў школ, загінулых на вайне. Падлеткі сабралі 2 049 успамінаў (на аудыё- і відэакасетах) ветэранаў і відавочцаў баёў.

Была ажыццёўлена вялікая колькасць турыстычных паходаў, экскурсій, ваенна-спартыўных гульняў, конкурсаў на лепшы здымак, малюнак, плакат, на лепшае сачыненне пра сваю мясцовасць і справаздачу, песню і г.д. Было праведзена 58 чытацкіх канферэнцый, у якіх бралі ўдзел 1 617 навучэнцаў. У ходзе эстафеты Памяці нараджаліся і новыя акцыі. Так, у Докшыцкім раёне менавіта ў яе ходзе былі сабраныя матэрыялы, і па ініцыятыве намесніка загадчыка райана Ф. Палачаніна выдадзена кніга "Недаспяваная песня", прысвечаная памяці загінулых у арміі ў мірны час юнакоў – ураджэнцаў раёна, пасаджана алея ў іх гонар. А ў г. Орша на базе дзяржаўнага музея Ул. Караткевіча створана выдатная экспазіцыя пра нашых сучаснікаў – аршанскіх выпускнікоў, якія вызначыліся добрымі справамі.

З мэтай перадачы вопыту іншым абласцям рэспублікі і падвядзення вынікаў у Мінску на працягу дзевяці дзён у жніўні 2003 года праводзіўся рэспубліканскі фестываль переможцаў эстафеты Памяці "Мір – у XXI стагоддзе!" (у ім прымалі ўдзел 110 вучняў). Удзельнікі фестывалю не толькі абменьваліся вопытам па патрыятычным выхаванні, не толькі ўдзельнічалі ў розных конкурсах і спаборніцтвах, але і правялі вялікую даследчую працу ў архівах Рэспублікі Беларусь і фондах музея Вялікай Айчыннай вайны, рыхтуючы для сваіх абласцей матэрыялы для правядзення новых акцый "Памяць" і «Па мясцінах баёў аперацыі "Баграціён"», прысвечаных 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У апошні дзень правядзення рэспубліканскага фестывалю пераможцаў эстафеты Памяці. Кожны яго ўдзельнік даў клятву вернасці пошукавай справе і адданасці памяці продкаў, якія абаранялі сваю Радзіму.



*Ларыса БРУЕВА,*
*намеснік генеральнага дырэктара Віцебскага абласнага аб'яднання пазашкольнай работы, кіраўнік грамадскага аб'яднання «Беларуская рэспубліканская асацыяцыя "Пошук"»*

**Ад рэдакцыі.** Прыемна падкрэсліць, што краязнаўцы з Віцебшчыны – адны з самых актыўных нашых аўтараў (Г. Варатынская з Ушач, Ул. Шушкевіч з Лепеля, М. Маркевіч, В. Жукоўскі, Л. Анісовіч з Оршы, В. Сямёнава з Дубровенскага раёна, В. Левін – вучань Дзёрнавіцкай СШ Верхнядзвінскага раёна).

Вам, Ларыса Навумаўна, дзякуем за гэты артыкул, а таксама і за дасланыя матэрыялы краязнаўцаў з розных рэгіёнаў вашага прыдзвінскага краю. Гэтыя творы мы падрыхтавалі да друку і пачынаем друкаваць.

# Беларусь у Санкт-Пецярбургу

Як вядома, нашы землякі ў свой час таксама будавалі Санкт-Пецярбург, шмат аддалі дзеля новай сталіцы Расійскай імперыі сіл і жыццяў. Можа, таму нашы землякі здаўна палюбілі гэты і па-сапраўднаму еўрапейскі, і рускі горад, атрымлівалі там адукацыю, тварылі. Нямала сіл і жыццяў аддалі для яго ў гады Другой сусветнай вайны.

І сёння ў Санкт-Пецярбургу шмат беларусаў, якія працуюць у розных галінах. Ёсць і нашы пісьменнікі. Яны не толькі мірна суіснуюць з іншымі літаратарамі, якія пішуць на розных мовах, але і ўтварылі свой пісьменніцкі саюз "Многонациональный Петербург", сумесна выпускаюць газету "Петербург многонациональный".

Напрыканцы мінулага года "Краязнаўчая газета" атрымала адтуль адзін з нумароў гэтага выдання, дзе мы з задавальненнем пабачылі, што нашы землякі ў ім прадстаўлены годна. Другая і трэцяя старонкі прысвечаны 70-годдзю гісторыка, кандыдата медыцынскіх навук, пісьменніка Валянціна Грыцкевіча, дзе асвечаны вехі яго жыццёвага, навуковага і літаратурнага шляху, а таксама змешчаны ягоныя здымкі розных гадоў, на 4-й і 5-й старонках – пераклады на рускую мову вершаў Максіма Багдановіча, на беларускай мове і ў перакладах на армянскую Ніны Мацяш, беларускамоўныя вершы Аўгінні Кавалюк і Ланы Успенскай (дэбют), словы пра Максіма Гарэцкага ў сувязі з яго 110-годдзем з дня нараджэння, вершы башкірскай паэтэсы Альміры Біккулавай у перакладзе Аўгінні Кавалюк, на 5-й старонцы – верш Анатоля Кірвеля, прысвечаны памяці санкт-пецярбургскага мастака і паэта Аляксандра Дабравольскага.

"Беларускія" старонкі падрыхтаваў член Саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоль Кірвель.




*Даследаванне краязнаўца*

# Этнічная мазаіка Ліды



Ліда – адно з найстаражытнейшых паселішчаў Беларусі. Афіцыйна сцвярджаецца, што гораду больш за 600 гадоў. Але калі зазірнуць у гісторыю і летапісныя крыніцы, то ёй трэба дадаць, прынамсі, гадкоў з паўсотні, а то і больш.

Сёння Ліда – буйны прамысловы цэнтр, транспартны вузел краіны і культурны асяродак. Займае тэрыторыю ў 36,16 кв. кіламетраў. Яго перасякаюць уздоўж і ўпоперак 365 вуліц і завулкаў. Сярод гарадоў-стотысячнікаў займае 14-е месца (перапіс 1999 г.). У 1999 годзе тут пражывала 100,7 тысяч чалавек. Агульная сям'я гараджан шматнацыянальная. Паводле перапісу, тут жывуць людзі 47 нацыянальнасцяў. Але насельніцтва – катэгорыя рухомая. Таму змены, як колькасныя, так і этнічныя, – з'ява натуральная. Па прычыне знешняй і ўнутранай міграцыі, малой нараджальнасці і павышанай смяротнасці ў апошнія гады натуральны прырост насельніцтва ў горадзе значна панізіўся і стаў адмоўным – 350 чалавек у год.

У час першага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі (1897 г.) у Лідзе пражывала 9 323 чалавекі 11 нацыянальнасцяў 10 канфесій. Цяпер тут жывуць прадстаўнікі не толькі народаў былога Савецкага Саюза, што натуральна, але і іншых краін свету. Напрыклад, сям'я чэхаў і нават 1 курд.

## І ўсё ж мова, а не "наречие"

Беларуская нацыя фарміравалася на прасцягах сённяшняй Беларусі на працягу стагоддзяў з колішніх крывічоў, дрыгавічоў, драўлян ды балцкіх плямёнаў. Доўгі час па месцы жыхарства (Вялікае княства Літоўскае) сённяшніх беларусаў называлі ліцвінамі. І гэтая назва моцна трымалася аж да пачатку XIX стагоддзя. Нават вялікія пісьменнікі Аляксандр Пушкін і Адам Міцкевіч, здаецца, не называлі гэты край Беларуссю, а яго жыхароў беларусамі. Адам Міцкевіч пачаў сваю паэму "Пан Тадэвуш" словамі: "Літва, айчына мая!"

Тэрміны "Беларусь" і "беларусы", як мяркуе А. Рагалёў, з'явіліся яшчэ ў XII–XIII стагоддзях, але ўжывацца сталі значна пазней. Адбывалася гэта, як кажуць, "з рыпам". Пасля падпісання Люблінскай уніі 1 ліпеня 1569 года Вялікае княства Літоўскае вельмі аслабіла сваю былую самастойнасць. Такі стан трываў больш як два стагоддзі. Хуткімі тэмпамі ішла паланізацыя насельніцтва і іх мовы. Беларуская мова, якая 400 гадоў была дзяржаўнай у ВКЛ, аказалася настолькі запоўненай паланізмамі, што паўстала пытанне пра замену яе на польскую. З гэтай мэтай у 1696 годзе была склікана Усеагульная канферэнцыя саслоўяў Рэчы Паспалітай, якая павінна была вырашыць не толькі пытанне аб дазволе пісаць дзяржаўныя дакументы ў ВКЛ на беларускай мове, а ўвогуле – быць гэтай мове ці не быць. І неверагодна: калі пытанне паставілі на галасаванне, ніводзін голас не прагучаў у абарону беларускай мовы! Што ні кажы, дрэнны прыклад патрыятызму тады падалі! Вялікі грэх учынілі!

Усё гэта не магло не абмінуць Ліду. У такіх умовах фарміраваўся ў горадзе этнічны стан насельнікаў. У канцы XVIII стагоддзя, пасля падзелу Рэчы Паспалітай, Беларусь апынулася пад уладай Расійскай імперыі. Становішча на карысць беларускасці не палепшылася. Паланізацыя змянілася русіфікацыяй. У 1840 годзе расійскі цар Мікалай I выдаў указ, паводле якога ўжываць словы "Беларусь" і "беларусы" забаранялася. Ён "повелел" замяніць назву "Беларусь" на "Северо-Западный край". Разам з тым зноў была забаронена беларуская мова. Да яе пачалі ставіцца з непавагай, з пагардай. К. Рылееў, чалавек у той час передавых поглядаў, і той называў беларускую мову "по-польски хлопское наречие".

Аднак, нягледзячы на ўсе перашкоды і забароны, беларуская мова, адна з найстаражытнейшых славянскіх моў у Еўропе, выжыла. Як выжылі нацыянальныя абрады і традыцыі.

Пачынаючы з другой паловы XVIII стагоддзя, колькасць насельнікаў у Лідзе пачала расці. У 1897 годзе іх налічвалася больш за 9 тысяч. Беларусаў у той час налічвалі 826 чалавек – 450 мужчын і 376 жанчын, або ўсяго 8,9 % ад агульнай колькасці.

У перадваенныя гады ў Лідзе беларусаў было не больш за 2 %. Зараз згодна з перапісам – 44 479 чалавек (44,2 %). Аднак тое, што беларусаў у горадзе больш, чым прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, ніяк не адчуваецца. Куды ні кінь позірк, нічога беларускага не відаць: ні шыльдаў, ні рэкламы. Зніклі беларускія школы, у дзяржаўных установах не пачуеш роднага слова. Мы вяртаемся ў мінуўшчыну – у "Северо-Западный край".

## Адкуль пайшлі палякі ў Лідзе?

Шмат давялося чытаць розных версій у навуковых і іншых выданнях на гэту тэму. Але найбольш (на мой погляд) адпавядае праўдзе меркаванне вядомага беларускага гісторыка і этнографа А. Кіркора, выказанае ім яшчэ ў 1882 годзе.

З гэтай версіі вынікае наступнае. У сярэднявеччы на захадзе Беларусі пражывалі плямёны яцвягаў. Пад уплывам каталіцкай царквы у суседняй Польшчы яны прынялі каталіцкае веравызнанне і з таго часу пачалі лічыць сябе палякамі. Ці не з тых далёкіх вякоў дайшоў да нашых дзён звычай каталікоў лічыць абавязкова палякамі?

У 1264 годзе папа рымскі Інакенцій IV "падараваў" землі сённяшняй заходняй Беларусі, некалі абжытыя яцвягамі, польскаму князю Баляславу Сарамліваму. З таго часу і пачалося распаўсюджванне палякаў на Беларусі, паланізацыя іншых плямёнаў. Тых ж з яцвягаў, якія не прынялі каталіцтва, былі амаль цалкам фізічна вынішчаны, астатніх выцiснулі на поўнач. Сёння ад гэтага некалі шматлікага племені не засталося нават следу.

Адносіны паміж Польшчай і Беларуссю (Вялікім княствам Літоўскім) складаліся няроўна: то варожа, то пасуседску і па-сяброўску. Заснавальнік Ліды вялікі князь літоўскі Гедымін, каб устанавіць дружалюбныя стасункі з Польшчай, выдаў сваю дачку Алдону замуж за каралевіча Казіміра, які стаў пасля бацькі каралём Польшчы – Казімірам Вялікім. Шлюб паміж пятнаццацігадовым каралевічам і Анай-Алдонай адбыўся ў чэрвені 1328 года. Гедымін вярнуў Польшчы захопленых у мінулых войнах палонных, а кароль Уладзіслаў Лакетак з гэтай нагоды увёў новы ордэн – Белага Арла. 28 чэрвеня 1328 года паміж ВКЛ і Польшчай быў падпісаны абарончы саюз. І супрацьстаянне паміж дзяржавамі прыпынілася.

У наступным адносіны паміж Беларуссю і Польшчай у значнай ступені залежалі ад адносін паміж Польшчай і Расіяй. Тым не менш паланізацыя, практычна, не прыпынялася ні на хвіліну: яна або крыху прытухала, або зноў успыхвала. Больш за ўсё ёй спрыяла каталіцкая царква.

Усе гэтыя працэсы не маглі не адбіцца на фарміраванні этнічнага стану Ліды. Праз многія стагоддзі колькасць палякаў у Лідзе пераважала над колькасцю беларусаў. Згодна з перапісам Расійскай імперыі 1897 года палякаў у Лідзе было 1 628 чалавек, або 17,5 % – амаль удвая больш, чым беларусаў. Зараз палякаў і беларусаў у горадзе амаль пароўну – 38 571 (38,3 %) і 44 479 (44,2 %) адпаведна. У перадваенныя гады палякі складалі больш за 50 % жыхароў горада. Колькасць палякаў у Лідзе зменшылася перш за ўсё з-за эміграцыі. Асабліва ў першыя пасляваенныя гады. У Польшчу выехала больш за 50 % гараджан польскай нацыянальнасці.

## Супольнасці іншых славян у Лідзе

На трэцім месцы па колькасці ў горадзе – рускія. Але яны трымаюць "пальму першынства". Паводле перапісу 1999 года іх 14 077 (14 %). У параўнанні з папярэднім перапісам 1989 года колькасць іх панізілася на 3 %. Гэта зноў-такі вынік міграцыі, выкліканай распадам Савецкага Саюза. Перш за ўсё з-за вываду значнай часткі войскаў.

Рускія з'явіліся ў Беларусі яшчэ ў XV–XVI стагоддзях. Гэта былі "военные служащие люди", "панцырные бояре", якія сяліліся пераважна ўздоўж мяжы паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам. З часам колькасць іх узрасла, асабліва пасля падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння Беларусі да Расійскай імперыі. Першы перапіс насельніцтва паказаў, што ў Лідзе ў той час рускіх было 1 252 чалавек (больш як 13 %) – 977 мужчын і 275 жанчын.

Статыстыка ўлічвае яшчэ адну групу славян у Лідзе – украінцаў. Колькасць іх адносна невялікая – 2 607 чалавек. За апошнія 10 гадоў яна значна панізілася, амаль на 2,5 %.

Акрамя славян, у Лідзе жывуць прадстаўнікі іншых народаў і нацыянальнасцяў: літоўцы, яўрэі, татары, цыганы і інш.

*Анатоль КУЛЕШ,*
*г. Ліда*

*Часта ўжываецца такі выраз: ён улюбёны ў свой горад (родны кут). Гэта можа быць у сузіранні і любаванні, а яшчэ гэта можа выяўляцца і ў творчасці пісьменніка, мастака, архітэктара, будаўніка і г.д.*

*Насця Фяцісава – адна з тых, хто любіць свой Брэст. Спачатку яна набыла ў Мінску музычную адукацыю, у 1982 годзе – мастацкую (у сённяшняй Беларускай акадэміі мастацтваў). Праектавала інтэр'еры грамадскіх будынкаў і выконвала манументальна-дэкаратыўныя работы. Распісвае эмаллю метал, а таксама займаецца станкавым жывапісам у гістарычным жанры.*

*Да 980-годдзя роднага горада прысвяціла яму свае працы «Таямніцы старога Брэста» (другая назва «Горад, які пакідаюць анёлы»), дзе зрабіла сваю спробу аднавіць зніклы горад і за што атрымала высокую ацэнку гісторыкаў, дзеячаў літаратуры і мастацтва.*

# Анёлы, якія пакідаюць горад,

## альбо Не зусім адвольныя фантазіі мастачкі Насці Фяцісавай пра гістарычны Брэст

***

*"Як апрануты "анёл"?*

*Ён такі, які ёсць на сярэдневяковай іконе, – сімвалічны... У карціне "Анёл над горадам" традыцыя накладзена на індывідуальнае ўспрыманне: "анёл" мнагарукі: ён аберагае, і ён благаслаўляе, асвятляе шлях ..."*

***Н. Фяцісава***

Былы горад, у асноўным, мазаічны. Кожная карціна – гэта мазаіка з некалькіх сцэнаў дзеяння, з некалькіх архітэктурных аб'ектаў, дзе дэталі мастачка не толькі прыдумала, але перадала дакументальна. На першы погляд, у рытмах такога горада пазнаем знешне спыненае гістарычнае жыццё, – каб уважлівы назіральнік карцін мог агледзець і запамятаваць у дэталях гістарычны Брэст, які ўзрадзіла ў сваёй не зусім адвольнай фантазіі Н.Фяцісава.

Вось... Прывідны замак ("Сказанне пра Брэсцкі замак"). Прывідныя вобразы (постаці) розных часоў у адно імгненне сабраліся на тэрыторыі замка, які з усіх бакоў "абвіты" вадою (у рэальнасці – замак быў змешчаны на зліцці рэк – Мухавец і Заходні Буг). У Насці Фяцісавай асабліва цёплыя адносіны да гэтай работы, бо, па прызнанні мастачкі, "выключнасць гэтай карціны ў тым, што ў ёй (у адрозненні ад іншых твораў) найбольш празрыста і поўна сканцэнтравалася энергетыка векавога горада". У замку – энергетыка каралёў, якія там жылі, энергетыка святаў і энергетыка бітваў. І ўсё ж замак – гэта пір жыцця, асуджанага памерці.

Вось чаму замак паказаны ў месяцовым святле. "Месяц" – сімвал энергетычнага неспакою. А вось сонечнае цяпло, візуалізаванае ў розных формах агню (блішчаць "свечкі", свецяцца "каміны"...), у замку значыцца толькі як пра стабільнае шчасце ўспамін.

Дакументальна, у рэальных падрабязнасцях, Н.Фяцісава даведалася пра замак з Інвентара ад 1566 года. Адсюль – на 1566 г. Брэсцкі замак меў пяць вежаў: "На адной з вежаў – вежы з варотамі, якая вяла праз мост да горада, быў усталяваны гадзіннік з боем (вежу з гадзіннікам бачым на карціне злева); на другой – знаходзіўся звон, прывезены з Валыні" (вежа са званом – на карціне з правага боку).



«Сабор Святога Мікалая»

... І ўсё ж – мастацкае напаўненне карціны "Сказанне пра Брэсцкі замак" – умоўнае, алегарычнае (у рэальнасці Брэсцкі замак выглядаў некалькі інакш). Усё тут сімвалічнае: і гарадскі сейм Вялікага княства Літоўскага (з 1446 па 1569 год замак семнаццаць разоў станавіўся месцам правядзення дзяржаўных сеймаў ВКЛ), і карагоды дзяўчат у месяцовую ноч, і купанне чырвоных коняў, і павялічаныя прапорцыі кратаў, за якімі сядзелі асуджаныя вязні, і – як своеасаблівыя вароты замка – пад'ёмныя масты на жалезных ланцугах, і афарбаванае ў колер "міражу" шэсце Грундвальдскай бітвы, і сілуэты коннікаў-рыцараў, якія глядзяцца ў паветры, нібы выплылі толькі што з вады...

***

*"Калі я думаю пра стары горад, то чую галасы даўніны: песню пеўніка, брэх сабак, скрып карэт і павозак, і нават шапаценне дзіўных тканін... Для таго, каб увайсці ў вобразы тых часоў (XIV – XVIII ст.), я ўяўляла, слухала "галасы" замка – у колерах, праз сінтэз гуку і колеру шукала ўнутранае напаўненне вобраза".*

***Н.Фяцісава***

Менавіта праз такую мелодыю колераў мастачка павяла аповед пра лёс і выпрабаванні старога Брэста, фантазійна апаэтызавала замак, але пры гэтым – яго не толькі прыдумала, але перанесла на палатно з рэальных дакументаў, чарцяжоў... Вось чаму так хочацца разам з Насцяй Фяцісавай і яе навуковымі кансультантамі, дзякуючы якім мастачка дапрычынілася да архіўных крыніц (з Ірынай Лаўроўскай – архітэктарам, Валянцінай Бай – супрацоўніцай музея абароны Брэсцкай крэпасці, Васілём Сарычавым – журналістам), здзейсніць падарожжа ў намаляваны міражны горад. А там... апынуцца, напрыклад, у леце 1750 года (глядзі карціну "Над калегіумам езуітаў") і прайсці па Кавальскай вуліцы – уздоўж фасада калегіума езуітаў [1], каб далей – у лекарскім садку збіраць травы да вечара. І думаць... А мо які студэнт запросіць у тэатральную залу паглядзець спектакль, пасвечаны святому Антонію..? І далей... Чакаць, калі ўзыдзе месячык, і ў месяцовую ноч уяўляць сябе "чалавекам замка" (глядзі карціну "Сказанне пра Брэсцкі замак"), каб уяўна перанесціся ўжо ў больш глыбокі час – у снежань 1409 года. А там... Пачуць вестку пра платуемую сустрэчу ў замку Вітаўта і польскага караля Ягайлы. Цікава, а ці стане Вітаўт каралём?

Не абмінуў увагу мастачкі і барочны манастыр брыгітак[2]. Вобразны свет карціны "Салдаты ў манастыры брыгітак" сімвалічны, двухпланавы. Салдаты маршыруюць у двары. Шлях сілуэтных "брыгітак" прачытваецца як сімвалічнае ўзнясенне манахінь у нябёсы.

"Брыгітка", якая на першым плане, глядзіць на свет вачыма, напоўненымі страхам і адначасова нябесным спакоем. Яна моліцца. Жанчына ў традыцыйным адзенні манахіні каталіцкага ордэна. Чырвоныя плямкі на "кароне" сімвалізуюць кроў Хрыста. І зноў жа, як і ў іншых творах Н. Фяцісавай, у палітры міражнага горада адсутнічае чорны колер. Манастыр брыгітак рамантычна асветлены... Чаму? Бо ў карціне думка пра знікненне унікальнага культурна-архітэктурнага комплексу (пра ператварэнне манастыра ў казармы) існуе паралельна са спадзяваннямі мастачкі на яго хуткае адраджэнне ў сённяшнім часе.



«Сказанне аб Брэсцкім замку» (фрагмент)

У тым, што стары Брэст – гэта культурна-архітэктурны помнік, пераконвае нас і карціна "Былы горад".

Воблік горада тут фатаграфічна дакладна пераняты з графічнага малюнка невядомага аўтара XIX ст. На горад манастыроў глядзім як бы з боку Замкавай гары, якая знаходзіцца на цяперашнім Госпітальным востраве крэпасці (у раёне археалагічнага музея "Бярэсце"). Асабліва прыгожы касцёл манаскага ордэна брыгітак – "будынак з высокім гатычным шпілем і эфектным фасадам у стылі барока, завершаным фігурным франтонам..." [3]. А ў цэнтры кампазіцыі – касцёл і манастыр аўгусцінцаў [4], названы так у гонар хрысціянскага багаслова Аўгусціна Блажэннага.

***

У XIX ст. на месцы старога Брэста – па загаду Мікалая I – была пабудавана крэпасць, а горад быў разбураны. Імгненна знік, нібы патануў у вадзе гістарычнага часу. І сёння, калі з Замкавай гары акінуць позіркам спыненую ваду летняга Мухаўца, то можна заўважыць, што вада – не толькі зялёная, але і карычневых, ружовых колераў (пэўна, не толькі таму, што адлюстроўвае ў сабе карычнева-ружовую сцяну крэпасці?!). Думаецца, Н. Фяцісава запазычыла ў вады такую "палітру" для свайго маляванага архітэктурнага горада. Ружовага ... – як шкляныя пацеркі ў берасцейскіх "нявест". Карычнева-бліскучага – як юфтавыя боты ў берасцейскіх "жаніхоў" .

***Алена ІГНАЦЮК***

---

[1] Комплекс езуітаў, касцёл і прымкнуты да яго калегіум, пабудаваны ў стылі барока. Акрамя школы, пры калегіуме з 1696 па 1760 г. працавалі: першыя ў Брэсце тэатр і аптэка. У 1826 г. дзейнасць езуітаў загадам імператара Расійскай імперыі была забаронена. У часе пабудовы крэпасці касцёл і калегіум езуітаў былі падпарадкаваны патрэбам ваеннага ведамства.

Сёння ад гэтага архітэктурнага комплексу засталіся толькі фрагменты фундамента.

[2] Касцёл і манастыр брыгітак.

Брыгіткамі называліся манахіні каталіцкага ордэна, названага так у гонар яго заснавальніцы – Святой Брыгіты.

Гісторыя пабудавання манастыра бярэ пачатак з ахвяраванняў (грашовых укладаў) Хмяноўскіх-Пацеяў. У 1621 г. у прадмесці Пескі быў пабудаваны драўляны манастыр, а пазней і касцёл. У 1751 г. былі пабудаваны мураваны касцёл Благавешчанне Марыі і манастыр. Аўтарам праекта архітэктурнага комплекса лічаць вядомага італьянскага архітэктара Паўла Фонтана. З другой паловы XIX ст. па чэрвень 1941 г. манастыр і касцёл выкарыстоўваліся як турэмныя памяшканні Брэсцкай крэпасці.

[3] *Сарычаў В.* У пошуках страчанага часу. Стары горад. Вячэрні Брэст. 2003 г.

[4] Касцёл і манастыр аўгусцінцаў.

Ордэн аўгусцінцаў быў названы так у гонар хрысціянскага багаслова Аўгусціна Блажэннага. Аўгусціны – першыя каталікі, якія пасяліліся ў старым Брэсце. Фундатарам аўгусцінцаў быў Вялікі князь Літоўскі – Вітаўт. Упершыню драўляныя манастыр і касцёл ордэна былі пабудаваны ў другой палове XIV ст. за межамі горада на вуліцы Прыорскай. Але ў XVII ст. татары спалілі касцёл і манастыр. Узрадзіўся касцёл у 1672 г. (будынак храма быў узведзены на гандлёвай плошчы). Пасля пажару ў 1808 г. комплекс аўгусцінцаў патрэбна было зноў адраджаць. У час пабудовы крэпасці на тэрыторыі, дзе знаходзіўся манастыр, была ўзведзена гарнізонная царква.

Экалогія

# Балота і людзі

Спрадвеку няпростае ўзаемадачыненне. Балота чалавека аберагала, лячыла, карміла, стрымлівала, а, бывала, кагосьці неасцярожлівага і губіла. Па-рознаму тэма балота адлюстравана ў нашым фальклоры, часамі і не зусім пашанотна: «гнілы, як балота», «у ціхім балоце чэрці водзяцца» і інш.

З балотам увесь час змагаліся – пракладалі па ім гаці, асушалі яго канавамі. Адзін з нашых класікаў літаратуры, Іван Мележ, адлюстраваў гэту справу ў рамане «Людзі на балоце». Зразумела, пісьменнік-паляшук ухваліў толькі тое са змагання, што было вельмі патрэбнае людзям. Зусім іншае разгарнулася ў савецкі, ужо ў хрушчоўска-брэжнеўскі час, калі па «мудрым рашэнні ленінскай партыі» кінуліся бяздумна спрамляць малыя рачулкі, асушаць балоты, унікальнае Палессе. Нясмелыя заўвагі грозна абсякалі: «Ты што – не жадаеш хлеба, шчасця савецкаму народу? Табе дарагія багна? гразь? камары і авадні?»

Неўзабаве выпрамленыя рачулкі ператварыліся ў вузенькія зарослыя і, ясна, абязрыбленыя канаўкі, асушаныя балоты – у пустэчу з рэдкімі дзікімі раслінамі, а Палессе – ад волі маскоўскіх і мінскіх чыноўнікаў, ад экскаватараў і бульдозераў...

Палессе, дзе жыве каля 2 мільёнаў люду, дзе унікальныя лясы і рэкі, балоты (дарэчы, адзін гектар твані ці багны да 15 разоў больш выводзіць з паветра вуглякіслы газ, чым адпаведная плошча лесу, без балота не могуць жыць многія віды расліннасці, птушак і жывёл) моцна пашкоджаны, патрабуюць не толькі ўвагі і дапамогі, каб карысна служыць не толькі Беларусі, але і ўсёй Еўропе, у якой яны за лёгкія. Трэба, да слова, дзе пасадзіць лес, дзе падлячыць яго на 730 гектарах. Таму там занепакоіліся і за наша Палессе, дзеля чаго створаны Міжнародны экалагічны фонд «Еўрапейскае Палессе» (ініцыятыва – Нацыянальная акадэміі навук Беларусі і Інвестыцыйнага камітэта садружнасці дзяржаў). Цяпер галоўная задача гэтай арганізацыі – захоўваць і развіваць унікальную экалагічную сістэму гэтага краю і інфраструктуру рынку сучасных экалагазахоўваючых тэхналогій рэгіёна. Плануецца стварыць два буйныя запаведнікі: адзін на памежжы з Украінай, другі – з Украінай і Польшчай.

# Зялёны шчыт Маладзечна

Калі глядзіш на карту, то бачна, што лясныя масівы ахопліваюць Маладзечна як бы паўколам. Зялёны колер выведзены на поўнач, усход і поўдзень ад нашага горада. Але найбольш буйныя суцэльныя плошчы займае лес, што расце за Ушой, у бок Вілейкі. Пазнаёмімся з ім бліжэй.

Праязджаем Вялікасельскую вуліцу, мост праз рэчку і па шашы Маладзечна – Вязынь крочым у лес. Нас сустракае ўрочышча Галубка. Гэта вельмі стракаты масіў. Але асноўная парода дрэў тут – сасна. Яна непатрабавальная і можа выжыць у вельмі неспрыяльных экалагічных умовах. Ёй не перашкодзяць ні бедныя пясчаныя глебы, ні пераўвільготненыя. Сасна выжывае там, дзе іншыя дрэвы гінуць. Такі лес заўсёды светлы, сухі, летам прагрэты, а паветра насычанае азонам, таму – гаючае. Каля смалістай хваіны заўсёды ёсць электрычны разрад, які іанізуе атмасферу.



Зайдзі... Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА

Каля павароту на Самалі бачна, што грунт стаў супясчаным. А значыць, з'явіўся яшчэ адзін «персанаж ляснога хору» – елка. Мабыць, ніводнае дрэва не ўплывае на сваё наваколле так, як яліна. Тут цёмна, сыра. Апалыя яловыя іголкі фарміруюць якасць глебы.

Ля вёсак Самалі і Рашаткі знаходзіцца ўчастак плошчай 9,3 га, дзе ў 1961 годзе праводзілася пасадка сасны. Па грунтовай дарозе крочым далей. Галоўныя пароды тут – елка, сасна і бяроза. Прычым у залежнасці ад вільготнасці тая ці іншая парода дамінуе. У лесе бачны зарослыя меліярацыйныя канавы. Ля іх – зараснікі вярбы і ляшчыны. Цяпер гэтыя канавы амаль усе ператварыліся ў азярцы з чорнай стаячай вадой і лясным ападам на дне. Іх супраўджае дарожны насып на сотні метраў.

А вось і першы дачны кааператыў «Бярозка». Паветра тут цудоўнае, але ж кааператывы вельмі аддалены ад аўтобусных маршрутаў. Без уласнага транспарту тут не абысціся.

Характар лесу перастаў быць такім стракатым: пароды мяняюцца больш павольна. Дзе-нідзе сасна саступае месца ялова-бярозавым участкам з прымессю іншых дробналістых парод. Бяроза – дрэва-піянер. Яна непатрабавальная да фактараў асяроддзя і пасля пажараў, лесанарыхтовак ці ветравалу дае прытулак пад сваёй кронай хваёвым дрэвам. А тыя, як вырастуць, нярэдка губляюць «прыёмную маці». У раён дачных кааператываў заходзіць атрог урочышча Палом, большая частка якога знаходзіцца ў Вілейскім раёне. Зыходзячы з назвы, можна сказаць, што тут калісьці «папрацавала» бура, паламаўшы і паваліўшы шмат дрэў. Дарэчы, вельмі баіцца ветру елка, бо ў яе каранёвая сістэма знаходзіцца блізка да паверхні.

Ужо ў Вілейскім раёне ля рэчкі Смярдзея знаходзіцца ўрочышча Асінава. Толькі па назве можна здагадацца, што тут расце ў асноўным асіна.

Засталіся ззаду меліярацыйныя канавы, грунт зноў стаў сухім, пясчаным, а лес ператварыўся ў сасновы бор. Яшчэ крыху і – Лазавецкія могілкі. Потым паварот на Маладзечна. І з боку чыгункі, і далей знаходзіцца яшчэ адно ляснoe урочышча – Масцішча.

Вось і закончылася падaрожжа па самым вялікім лясным масіве, які знаходзіцца блізка ад Маладзечна. Прыкладна 42 дні ў год, калі вецер мае адпаведны напрамак, Маладзечна дыхае паветрам, якое ачышчана гэтым лесам. Дык давайце ж і мы берагчы свой зялёны шчыт!

*Алег БЯГАНСКІ*

# Свае і «імпартныя» імёны

## Назвы рэк і азёр Пастаўскага раёна

***Мы жывём у свеце слоў. Кожнае слова абавязкова што-небудзь абазначае. Вялікую долю слоў, якімі мы карыстаемся ў штодзённым жыцці, складаюць назвы. Горад Паставы, вёска Юнькі, рэчка Мядзелка, возера Свідна і іншыя найменні гарадоў і вёсак, рэк і азёр шчыльна ўвайшлі ў гаворку, пісьмо, і мы нават не задумваемся над тым, які сэнс нясе ў сабе тая альбо іншая назва.***

***Своеасаблівую групу складаюць назвы розных водных аб'ектаў: азёр, рэк, балот, каналаў, мораў і г.д. Спецыялісты абазначаюць іх тэрмінам «гідронімы», ад грэчаскіх асноў «гідра» – «вада» і «анома» – «імя, назва».***

Назвы рэк і азёр здаўна вабяць да сябе даследчыкаў. Гэта звязана з тым, што большасць з іх уяўляе словы-помнікі, якія прыйшлі да нас з глыбокай даўніны. Калі паразважаць над тым, як адбывалася засяленне якім-небудзь племенем той ці іншай тэрыторыі, то мы прыйдзем да высновы, што гэта было асваенне па далінах рэк. І гэта зразумела, бо ў часы, калі ўся паверхня была занята лясамі, рэкі адыгрывалі ролю шляхоў зносін, па іх ішоў пошук новых паляўнічых і рыбалоўных угоддзяў.

З гэтага разважання можна зрабіць некалькі высноў: па-першае, назвы рэк і азёр з'яўляюцца найбольш старажытнай групай назваў на якой-небудзь тэрыторыі; па-другое, большасць гідронімаў утваралася па схеме: вялікая рака – рыток ракі – ручай – возера, і таму ў аднаасноўных назвах рэк, азёр і населеных пунктаў (Камайскія азёры; рака Камайка, вёска Камаі) першакрыніцай варта лічыць назву ракі; па-трэцяе, з-за сваёй старажытнасці многія гідронімы прайшлі праз прызму скажэнняў, перайменаванняў і таму аднавіць першапачатковую форму назвы і растлумачыць яе сэнс – справа вельмі складаная. Дарэчы, зараз на Беларусі толькі каля паловы гідронімаў мае больш-менш пераканаўчае тлумачэнне.

Праца з назвамі рэк і азёр ускладняецца і тым, што народы і плямёны, якія пакінулі нам найменні водных аб'ектаў, ужо не жывуць на нашай тэрыторыі і іх мова адрозніваецца ад нашай.

Не трэба здзіўляцца таму факту, што значная колькасць гідронімаў Пастаўшчыны тлумачыцца з моў народаў, якія знаходзяцца сёння далёка ад Беларусі: фінская, карэльская, эстонская, комі, мансі, удмурцкая, хантыйская. Усе гэтыя мовы родныя і адносяцца да фіна-угорскай моўнай групы. У старажытныя часы прадстаўнікі менавіта гэтай групы першымі засялялі і асвойвалі тэрыторыю раёна.

Пасля фіна-угорскіх плямёнаў на гэту зямлю, напэўна, прыходзілі балты, але паколькі яны жылі тут надоўга і карысталіся фіна-угорскімі гідронімамі, то балцкіх назваў рэк і азёр не так шмат, як гэта даводзіць некаторыя даследчыкі, улічваючы суседства з Летувой і Латвіяй. Балты пакінулі свой адметны след у назвах вёсак раёна, хоць, трэба адзначыць, многія з іх маюць толькі балцкія канчаткі, а асновы фіна-угорскія ці славянскія. Дарэчы, Іван Ласкоў яскрава паказаў, што нават летапісныя плямёны нальшчаны і дзяволтва, якія насялялі захад Пастаўшчыны і ўсход Летувы, з'яўляліся фінаугорскімі.

Значная доля славянскіх і падобных на славянскія гідронімаў зразумела кожнаму: шмат стагоддзяў жывуць славяне на гэтай тэрыторыі і таму, канечне, пакінулі свае сляды ў назвах.

Цікавым з'яўляецца тое, што дзве назвы (Галбея, Бірвета) знаходзяць свае карані на Далёкім Усходзе ў тунгускаманьчжурскіх мовах, а назва Грынвальды ўказвае на відavочнасць яе германскага паходжання.

З прычыны таго, што некаторыя гідронімы дапускаюць тлумачэнне адразу з некалькіх моў, напрыклад, Азёркі, Страча, Пліса, Лапухова і г.д., то дакладна размеркаваць назвы па моўных групах паводле іх паходжання не ўяўляецца магчымым. Але прыблізна гэтыя лічбы можна акрэсліць: з фінаугорскіх моў – каля 40, са славянскіх – каля 30, з балцкіх – каля 10, тунгуска-маньчжурскіх – 2, германскіх – 1.

Найбольш просты па разуменні сэнсу з'яўляецца славянская група гідронімаў. Некаторыя не патрабуюць нават і тлумачэння: Баравое, Амшанае, Дубок, Загацце, Бледнае і г.д. Частка славянскіх назваў утварылася ад ужо састарэлых слоў, якія выйшлі з ужытку: Заражанка (ад слова «зараза» – «заraснік, пересечаная мясцовасць»), Язвінка (ад слова «язва» – «яр», «лагчына»), Волься (ад слова«вольс» – «альховы заraснік на балоце») і г.д.

Нашмат больш складанымі для тлумачэння з'яўляюцца балцкія і асаблівa фіна-угорскія назвы. Гэта тлумачыцца тым, што, па-першае, яны вельмі старажытныя; па-другое, моцна скажоныя і адаптаваныя пад славянскі моўны лад; па-трэцяе, мовы плямёнаў, якія пакінулі назвы, не захаваліся ў чыстым выглядзе, і таму тлумачэнні найменняў трэба шукаць сярод сучасных роднасных моў.

Варта адзначыць і яшчэ адну акалічнасць, якая ўскладняе пошукі: старажытныя людзі ўсё сваё жыццё праводзілі ў прыродзе і таму адзначалі і адлюстроўвалі ў назвах асаблівасці геаграфічных аб'ектаў. Тое, што для сучаснага чалавека ўсяго толькі «балота», для старажытнага мела дзесяткі, а мо і сотні адметнасцяў. Напрыклад, В. А. Жучкевіч толькі ў беларускай мове знайшоў шэраг слоў, якія акрэсліваюць розныя асаблівасці балота: валога, дрыгва, гала, нетра, віць, павіцце, мраіва, багна, твань, слата, іржа. А траба ўлічваць, што такія і, можа, нават даўжэйшыя рады існавалі таксама ў фіна-угорскай групе моў і ў балцкай.

Які ж сэнс укладвалі людзі ў назвы рэк і азёр? Паспрабуем разгледзець гэта на прыкладзе розных моўных груп (зважаючы толькі на гідронімы, якія маюць адно сэнсавае тлумачэнне). Працэс за ўсё разабрацца са славянскімі назвамі. І першае, на што трэба звярнуць ўвагу, – у славян словы тыпу «рака», «возера», «балота», «ручай» у саму назву звычайна не ўваходзяць, напрыклад возера Белае, рака Каменка; а ў фіна-угорскіх і балцкіх мовах такія вызначэнні ўваходзяць амаль абавязкова ў канструкцыю назвы.

Сярод гідронімаў славянскага паходжання на Пастаўшчыне найбольшую групу па сэнсе ўтвараюць назвы, якія паказваюць адметнасць расліннасці вакол аб'екта: Баравое, Амшанае, Белькі, Бярозаўскае, Волься, Дубок, Заражанка. Значнае распаўсюджванне маюць назвы, якія вызначаюць месцазнаходжанне азёр і рэк (Загачча, Задняе, Зароўшчына, Надазерскае), колер вады (Белае, Чорнае, Бледнае, Рудзіца, Аржоўка), прыналежнасць да ўласніка або жыхара (Арцёмаўскае, Бульбінаўскае, Казлоўскае). Адзінкавыя назвы адлюстроўваюць іншыя адметнасці: Язвіка (рэльеф), Думбля, Каменскае (грунты), Доўжа (форма), Валожынскае, Пліса, Сляпіца, Страча (іншыя характарыстыкі аб'ектаў).

Для назваў, якія маюць фіна-угорскае паходжанне, падобны падзел на групы правесці даволі складана. Амаль кожны гідронім утрымлівае частку ў сэнсе «вада», «рака», «возера» і г.д., і самі назвы ўяўляюць сабой апісальныя канструкцыі адметнасцяў воднага аб'екта. Напрыклад, Баб'е – возера, якое мае тарфяністыя сплавінныя берагі, Лодасі – возера, якое мае камяністы астравок і г.д.

***Падрабязную інфармацыю пра паходжанне і сэнс назваў рэк і азёр Пастаўскага раёна можна знайсці ў кнізе аўтара гэтага артыкула «Адкуль паходзяць назвы».***

*Ігар ПРАКАПОВІЧ*



# Выдатны вучоны і добры чалавек

## Замалёўкі

***

Гэта быў сонечны, цёплы восеньскі дзень, які хутчэй нагадваў дзень вясновы. Ад прыпынку адпраўлялася маршрутнае таксі нумар 83, услед якому махалі рукой дзеці і настаўнікі. А ў маршрутцы сядзеў чалавек і глядзеў на купку людзей, якія паступова аддаляліся. Чалавеку пад восемдзесят. Ён шмат пабачыў, пражыў за сваё жыццё. Але цяпер ён быў уражаны. Яму думалася: "Повязь пакаленняў... Меў рацыю гэты настаўнік. Трэба ж, цікавяцца дзеці. Захапляе іх і гісторыя, і археалогія..."

***

... Пачалося ўсё яшчэ ў верасні. Мы разам з нашым настаўнікам гісторыі Піваварам Мікалаем Васільевічам паехалі ў Полацк, на Дзень беларускага пісьменства. Падчас экскурсіі па Сафійскім саборы ён усіхняга паклікаў нас да сябе і сказаў:

– Вунь, бачыце, мужчына ў пінжаку, невысокі такі. Гэта сам Штыхаў – галоўны археолаг краіны.

– Той, які гарадзішча наша даследаваў?

– Так, той самы. Зараз паслухайце, што ён кажа, а пасля падыдзем да яго.

***

– Добры дзень, Георгій Васільевіч!

– Добры дзень!

– Георгій Васільевіч, мы Вас пазналі. Памятаеце гарадзішча ў Лужасна?

– А як жа. Я ж яго там капаў. Гэта, ведаеце, дужа цікавая рэч.

– Дык вось, мы ўсе – з Лужасна, з гімназіі. Экалагічны клуб "Дзвіна".

– Прыемна. А вось лужаснянскае гарадзішча – унікальнае ўвогуле.

– Мы б вас хацелі зноў да нас у госці запрасіць. Мо пакапалі б яшчэ разам.

– Можна. Увосень, недзе ў кастрычніку, адбудзецца ў Віцебску навуковая канферэнцыя. А там да Лужасна зусім недалёка. Абавязкова заеду да вас.

...Здымак, на якім мы ўсе разам побач з Г. В. Штыхавым, быў зроблены недалёка ад Сафійскага сабора, з відам на Дзвіну, у самым любімым горадзе знакамітага археолага.

***

– А цяпер, Георгій Васільевіч, прыміце ад нас, калі ласка, вось гэты фотаздымак на памяць аб сустрэчы ў Полацку, мы яго нават у рамку ўставілі.

– Дзякуй вам за гэта, дзякуй. Сапраўды, на добрую памяць будзе. Ну, цяпер задавайце свае пытанні, калі ёсць.

Калі ёсць? Вядома ж, ёсць! Пасыпаліся яны адразу: і пра месца нараджэння, і пра месца вучобы, пра захапленні, падарожжы, прафесію, працу... Але галоўным усё ж былі не пытанні, а адказы на іх – цікавыя і змястоўныя, шмат у чым павучальныя.

– А вось каб у мяне было шмат сродкаў, то першым месцам, якое я б вырашыў дасканала даследаваць, было б менавіта ваша Лужасна.

Прыемна было пачуць гэта ад таго, хто здолеў сваёй працай зрабіць так шмат для развіцця гісторыі краіны. Ён стаў доктарам гістарычных навук, прафесарам, аб'ездзіў усю Беларусь, даследаваў самыя розныя яе куткі і зазначыў:

– У Беларусі археалагічных помнікаў няма толькі там, дзе іх не шукаюць.

Гэтага чалавека можна цытаваць.

Мне ён падаўся крыху не такім, якім павінен быць вядомы вучоны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Георгій Васільевіч – свой, просты і разумны. Да яго падыходзіць выслоўе аб тым, што таленавіты чалавек – таленавіты ва ўсім. Ён захапляецца Быкавым і Караткевічам, стварае падручнікі па гісторыі Беларусі, шмат вандруе. Польшча, Германія, Славакія, Расія, Чэхія... Але любіць ён толькі адну краіну – сваю, і не разумее, навошта нешта шукаць далёка за мяжой, калі ў нас ёсць усяго, усяго шмат.

***

– А вы пісалі вершы?

– Так, пісаў у маладосці. Цяпер на ўсё не хапае часу. Спраў, сапраўды, шмат. І нягледзячы на гэта, ёсць у мяне вялікі клопат – выданне падручнікаў. Я лічу, што падручнік, які дае найбольш дакладную інфармацыю, – неабходная ўмова ў нашых школах рэч.

Прыйшоў жа Георгій Васільевіч да нас не з пустымі рукамі: кавалкі керамікі (славянскай і балцкай), малюнкі, фотаздымкі, планы раскопак (у прыватнасці, план гарадзішча днепра-дзвінскай і банцараўскай культуры, датуемага VI– VIII ст. (в. Лужасна). Для нас гэта быў цікавы і нават унікальны матэрыял.

***

Мы не прамінулі ў той жа дзень зрабіць цікавую экскурсію ці нават падарожжа па в. Лужасна. Падчас яго ў мяне атрымалася асабістая размова з Георгіем Васільевічам. Я даведалася шмат цікавага пра яго, пра тое, што некаторых знакамітых археолагаў рэпрэсіравалі ў 1937 годзе, пасля чаго археалогія як навуцы цяжка было адрадзіцца...

Я хораша адчула, што Георгій Васільевіч – чалавек добры, які любіць дзяліцца сваімі думкамі, успамінамі...

Я яшчэ не вызначылася са сваёй будучыняй. Што мяне чакае? Невядома. Абраць свой шлях – складана. А калі ў Георгія Васільевіча запыталі, чаму ён абраў сабе такую прафесію, ён адказаў:

– Ведаеце, археалогія – гэта такая навука, акунуўшыся ў якую, нельга ўжо вызваліцца. Мяркуйце самі з майго аповеду.

***

... Дзень сапраўды быў вясновы. Якая там восень! Вясна! Новая, свежая. Яна абяцае, што хутка лета. А значыць, хутка з'явіцца магчымасць паўдзельнічаць у раскопках пад кіраўніцтвам Г. В. Штыхава. А там, глядзі, і да дысертацыі недалёка?!

*Вольга **АНІКІЕВІЧ**, вучаніца 11 "Г" класа Лужаснянскай гімназіі*

## Кінастужкі ў летапіс і... на памяць Філарэту

Плённы быў леташні год для народнага кінавідэаклуба "Летапіс" пры Талачынскім гарадскім Доме культуры. Кінааматарамі створана 16 кінастужак на важныя тэмы жыцця раёна. Асабліва хочацца адзначыць такія з іх, як "Талачыну – 570", "Юбілейны канцэрт", "Горад майстроў", "Мастак Істомін" і інш. Асабліва месца ў творчасці клуба займаюць кінафільмы і кіназамалёўкі, прысвечаныя тэме аховы прыроды, яе непаўторнай прыгажосці. Сярод іх – "Ноч на Купалу", "Белая бяроза", "Буслянка", "Осень воскресила клёны..."

Галоўная заслуга ў плённай дзейнасці клуба "Летапіс", на рахунку якога ўжо даўно больш за сто розных па тэматыцы і аб'ёме кінаработ, належыць стваральніку і шматгадоваму кіраўніку яго Анатолю Антонавічу Шнэйдару. Нядаўна ён пабываў у Мінску і перадаў дзве свае кінастужкі Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі Філарэту. Уладыку Філарэта многія талачынцы ведаюць не толькі як праваслаўнага святара высокага рангу, але і асабіста. Ён прыняў актыўны ўдзел у мерапрыемствах з нагоды 1000-годдзя старажытнага Друцка, асвяціў там адноўленую царкву Святой Багародзіцы, памятны знак у гонар гэтай знамянальнай даты, а таксама гісторыка-краязнаўчы музей ў райцэнтры. Пра ўсё гэта маляўніча расказваюць стужкі, перададзеныя Анатолем Шнэйдарам Уладыку Філарэту на добрую памяць аб знаходжанні на Талачынскай зямлі.

*Алесь **МАЗУР**, г. Талачын*



# Жывём, пакуль памятаем

***У асяроддзі краязнаўцаў Віцебшчыны наўрад ці знойдзецца чалавек, які б не ведаў Міхася РАЙЧОНКА. Шмат чаго ён паспеў бы зрабіць на ніве адраджэння беларускай культуры. Адна з самых значных спраў – стварэнне музея Язэпа Драздовіча ў вёсцы Германавічы Шаркоўшчынскага раёна. А пачыналася ўсё з дзіцячых захапленняў. Ада Эльеўна, маці Міхася, казала, што з маленства сын марыў стаць пісьменнікам... Некалькі яго твораў паспелі надрукаваць у «ЛіМе» і «Маладосці». Але жыццё маладога таленавітага чалавека абарвалася на 26-м годзе жыцця...***

***Гэтая падборка вершаў Міхася Райчонка, які нарадзіўся і пахаваны ў Германавічах, – ушанаванне ягонай памяці.***



### РОДНЫЯ МЯСЦІНЫ

Я нарадзіўся ў месцы
дзіўным
На беразе Дзісны-ракі,
Дзе ўлетку ў пышнай
зеляніне
Яе крутыя берагі.

І нарадзіўся я таксама
Там, дзе бяскрайнія палі
Сябруюць з сінімі лясамі,
Дзе звоняць срэбрам ручаі.

Мая на небе свеціць зорка
Там, дзе Драздовіч
вандраваў,
І дзіўныя свае ўзоры
На памяць людзям
пакідаў.

Там, дзе на ўзгорку над
Дзісёнкай
Касцёл з сівых гадоў
стаіць,
Дзе парк вядзе сваю
гамонку,
Пад ветрам лісце
шапаціць.
У гэтым месцы нарадзіўся
У белай хаце ля дубоў,
Дзе ўвесну вёска тоне
дзіўна
У белай кіпені садоў.

### МУЗА

Пішу тады, калі
натхненне маю,
Калі мне сэрца песні
запяе,
А розум сочыць за рукою,
Па аркушы яе вядзе.

### ДЗІСЁНКА

Ля ног трапечацца рака,
Любімая Дзісёнка.
І як мне сэрца весяліць
Яе гамонка.

Вось чайка весела крылом
Ваду задзела.
Узняўшы пырскі ўверх,
Зноў паляцела.

Чарот ля берага шуміць,
Пад ветрам гнецца.
І звонка песня салаўя
Удаль нясецца.

І радасць адчуваю я,
Радзімая старонка.
«Люблю цябе, люблю», –
Крычу я звонка.

### НЕЗНАЁМКА

Незнаёмая дзяўчына
Поглядам гарачым
Маё сэрца запаляе
Пачуццём гарачым.

Толькі гляну ў яе вочы,
Сэрца затраслося.
Вось чаго толькі баяўся,
Нарэшце збылося.

Але сэрцайка зажму я,
Ты прабач, каханне.
Не засвеціць нам ніколі
Ясная заранка.

Я адзін з тых, хто ведаў Міхася, дапамагаў яму надрукавацца ў "Маладосці" (на вялікі жаль, сёе-тое і пасля яго такой балючай заўчаснай смерці), высока цэнячы яго малады, але ўжо яркі талент. Пасля мы з яго маці, Адай Эльеўнай, вельмі адукаванай, інтэлігентнай жанчынай, вялікім энтузіястам беларускай справы, рыхтавалі да друку яго першую кнігу ў «Бібліятэцы часопіса "Маладосць"». І хоць я працаваў у гэтым выданні, займаючы высокую пасаду, але не мая віна ў тым, што няма гэтай "Бібліятэкі", што яе змусам, безадказна запынілі чыноўнікі, лічачы, што маладым пісьменнікам нашай краіны падтрымка не патрэбна. Выжывуць самі – дык выжывуць, не стануць на ногі – ну і не трэба. Такой бяды, з ёю, будучыняй беларускай літаратуры. Хоць у той серыі з 1988 па 2002 год выйшла каля 160 зборнікаў паэзіі, прозы, крытыкі і публіцыстыкі. З іх каля 100 аўтараў папоўнілі склад Саюза беларускіх пісьменнікаў, а на выданне асобнай кнігі патрабаваліся самыя мізэрныя сродкі, бо астатнюю частку іх шукалі і знаходзілі самі аўтары.

Ты з намі, Міхась!

*Генрых **ДАЛІДОВІЧ***

## У 2004 годзе спаўняецца:

**Віцебск**, г. (974) – 1030 гадоў з часу заснавання.

**Ізяслаў Яраславіч** (у хрышчэнні Дзмітрый; 1024–1078), князь тураўскі і вялікі князь кіеўскі – 980 гадоў з дня нараджэння.

**Навагрудак**, г. (1044) – 960 гадоў з часу першага верагоднага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах.

**Полацкі Сафійскі сабор** (паміж 1044 і 1066 ці 1050 і 1060) – 960 гадоў з часу пабудовы.

**Брачыслаў Святаполчыч** (1104 – 1128), князь з тураўскай дынастыі Ізяславічаў – 900 гадоў з дня нараджэння.

**Капыль**, г. (пад 1274) – 730 гадоў з часу першых летапісных звестак.

**Магільна**, в. (Уздз. р-н; пад 1284) – 720 гадоў з часу першага ўпамінання.

**Скіргайла** (у праваслаўі Іван; каля 1354–1394), князь полацкі, трокскі і кіеўскі ў ВКЛ – 650 гадоў з дня нараджэння.

**Мядзел**, г. (1454) – 550 гадоў з часу першага ўпамінання.

**Вітэлій Эразм** (Цёлк; 1474 (?) – 1522), дзяржаўны, рэлігійны і культурны дзеяч ВКЛ і Рэчы Паспалітай, публіцыст, мецэнат – 530 гадоў з дня нараджэння.

**Радзівіл Ян** (каля 1474–1522), дзяржаўны дзеяч ВКЛ – 530 гадоў з дня нараджэння.

**Смаляны**, в. (Аршан. р-н; 1484) – 520 гадоў з часу першага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах.

**Высокае**, г. (1494) – 510 гадоў з часу атрымання магдэбургскага права і герба.

**Залужжа**, в. (Стаўбц. р-н; 1494) – 510 гадоў з часу першага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах.

**Косава**, г. (1494) – 510 гадоў з часу першага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах.

**Будслаў**, в. (Мядзел. р-н; 1504) – 500 гадоў з часу першых звестак.

**Казьяны**, в. (Брасл. р-н; пад 1504) – 500 гадоў з часу першага ўпамінання ў гістарычных крыніцах.

**Глыбокае**, г. (1514) – 490 гадоў з часу першага ўпамінання ў Метрыцы ВКЛ.

**Ваўкалата**, в. (Докш. р-н; 1524) – 480 гадоў з часу першага ўпамінання.

**Вузла**, в. (Мядзел. р-н; 1524) – 480 гадоў з часу першых звестак.

**Старыя Дарогі**, г. (1524) – 480 гадоў з часу першых звестак.

**Пагошча**, в. (Брасл. р-н; 1529) – 475 гадоў з часу першага ўпамінання ў гістарычных крыніцах.

**Сянно**, г. (1534) – 470 гадоў з часу першага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах.

**Горкі**, г. (1544) – 460 гадоў з часу першага ўпамінання ў дакументальных крыніцах.

**Пянткоўскі Каспар** (1554–1612), польскамоўны драматург, выкладчык Віленскай езуіцкай акадэміі, аўтар п'есы «Цімон Гардзілюд» (каля 1584 г.), куды ўвайшла першая інтэрмедыя на беларускай мове, – 450 гадоў з дня нараджэння.

**«Размова паляка з літвінам»**, адзін з першых друкаваных свецкіх твораў на Беларусі (Брэст; 1564) – 440 гадоў з часу выдання.

**Друкарня Мамонічаў** (Вільня; 1574 – пасля 1624) 430 гадоў з пачатку дзейнасці.

**Мір**, г.п. (1579) – 425 гадоў з часу атрымання няпоўнага магдэбургскага права.

**Віленскі Святадухаўскі манастыр**, праваслаўны мужчынскі манастыр (1604) – 400 гадоў з часу першага ўпамінання.

**Залускі Лука** (1604, Міншчына – 1676), філосаф, педагог – 400 гадоў з дня нараджэння.

**Мілаславічы**, в. (Клімав. р-н; 1604) – 400 гадоў з часу першых звестак.

*(Працяг будзе.)*

## Студзень

**Мінская музычная школа** (1894 – канец XIX ст.) – 110 гадоў з часу адкрыцця.

**Пастаўскі раённы краязнаўчы музей** (1974) – 30 гадоў з часу заснавання (адкрыты 26.02.1976 г.).

1 – **Нацыянальная акадэмія навук Беларусі** (Мінск; 1929) – 75 гадоў з дня адкрыцця.

3 – **Раманюк Міхаіл Фёдаравіч** (1944, Брагін. р-н – 1997), мастацтвазнавец, этнограф, мастак – 60 гадоў з дня нараджэння.

4 – **Храптовіч Яўхім (Іаахім) Ігнацы Юзаф Літавор** (1729, Навагруд. пав. – 1812), грамадска-палітычны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ, філосаф, публіцыст, паэт, перакладчык – 275 гадоў з дня нараджэння.

4 – **Сяркоў Іван Кірэевіч** (1929, Гомел. р-н – 1998), пісьменнік – 75 гадоў з дня нараджэння.

5 – **Дом-музей Ваньковічаў.** Культура і мастацтва першай паловы XIX ст. (Мінск; 1984) – 20 гадоў з часу заснавання.

7 – **Луфераў Мікола** (Мікалай Пятровіч; 1929, Краснапол. р-н – 1994), крытык, літаратуразнавец – 75 гадоў з дня нараджэння.

9 – **Лінёва** (дзявоч. Папрыц) **Яўгенія Эдуардаўна** (1854, Брэст – 1919), расійская музычная фальклярыстка, спявачка, харавы дырыжор, якая ўдзельнічала ў стварэнні першай у Расіі народнай кансерваторыі (Масква; 1906 г.) і ўпершыню выкарыстала ў экспедыцыі фанограф – 150 гадоў з дня нараджэння.

9 – **Стасевіч Іван Нічыпаравіч** (1929, Старадар. р-н – 1998), жывапісец, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі – 75 гадоў з дня нараджэння.

12 – **Бугаёў Дзмітрый Якаўлевіч** (1929, Крыч. р-н), крытык, літаратуразнавец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1984 г.) – 75 гадоў з дня нараджэння.

14 – **Юргелевіч Пётр Якаўлевіч** (1894, Іўеўс. р-н – 1973), мовазнавец – 110 гадоў з дня нараджэння.

*(Працяг будзе.)*



*Крыніцы*

## На Полаччыне

Слова "крыніца" здаўна разумелі па-рознаму: як выключнай чысціні, аздараўленчай сілы выток з зямлі вады, як (у навуцы) сапраўднае дакументальнае засведчанае пацвярджэнне пэўнай падзеі і г.д.

На Беларусі, асабліва сярод простага люду, паняцце і значэнне "крыніцы" заўсёды было святое – да крынічкі-вадзіцы, што выплывае з глыбіні зямлі, прыходзілі не проста зачэрпнуць і выпіць прыгаршчы вады, а прычасціцца – ачысціцца ад сваіх грахоў, набыць новую жыватворную сілу.

Вось так летась аднесліся да такога гаючага месца і ў вёсцы Кавалёўшчына Полацкага раёна, пра яго паклапаціліся і мясцовыя ўлады, і праваслаўны святар.

Прыемна. А дзе, шаноўныя чытачы, крыніца ў занядбанні?

*Ад дзядзькі Антося*

## Калядныя прадказанні

Калі на праваслаўныя Каляды (7 студзеня) цёпла, вясна будзе халодная.

Снег на Каляды – на добры ўрадлівы год.

На Каляды мяцеліца – пчолы будуць добра раіцца.

Калі на Каляды маладзік, то год будзе няўродны.

Калі Каляды прыпадаюць на сераду, зіма будзе лагодная і доўгая, вясна – сухая, лета – цёплае, восень – сухая, няўрод пшаніцы, але вінаграду шмат, а мёду, агародніны – удосталь.

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

**Ардынацыя** (ад польск. і лац. кірую) – прававыя нормы, па якіх рэгулююцца спадчыннасць на нерухомую маёмасць магнацкіх родаў, а таксама непадзельная і неадчужальная ўласнасць (землі, лясы, гарады, вёскі) пэўных магнацкіх родаў Рэчы Паспалітай. Паводле спецыяльнага статута належала старэйшаму нашчадку рода.

На Беларусі першыя ардынацыі ўзніклі ў 1579 годзе (Нясвіжская, Клецкая, з якой у XIX стагоддзі вылучылася Давыд-Гарадоцкая). Яны зрабілі значны ўплыў на развіццё гарадскога і сельскага будаўніцтва, калі пачалі рэканструявацца ці ўзнікаць новыя комплексныя паселішчы. Некаторыя гарады і мястэчкі ў складзе ардынацый мелі магдэбургскае права (Нясвіж, Слуцк, Мір і інш.), набылі крэпасныя формы са складанай сістэмай фартыфікацыі. Ардынацыі ліквідаваны ў 1939 годзе.

**Арка** (ад лац. дуга, выгін) – у архітэктуры крывалінейнае перакрыцце праёма ў сцяне ці прасторы паміж 2 апорамі – слупамі, калонамі і г.д. Робіцца з каменю, цэглы, жалезабетону, металу, дрэва. Па форме аркі бываюць паўкруглыя ці паўцыркульныя (найбольш пашырана), спічастыя, падковападобныя, кілепадобныя, шматлопасцевыя, паўзучыя і інш. Бываюць аркі несапраўдныя (дэкаратыўныя) і канструкцыйныя з рознымі відамі і назначэннямі.

На Беларусі арачныя канструкцыі з'явіліся ў XI–XII стагоддзях (арачныя праёмы, падпружныя і ступеньчатыя аркі Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку), пашырыліся ў архітэктуры готыкі, дзе часамі набывалі спічастую форму (касцёл у в. Гнезна Ваўкавыскага раёна). У архітэктуры позняй готыкі і рэнесансу (XV–XVII ст.) пашырылася апрацоўка будынкаў дэкаратыўнымі арачнымі нішамі, аркатурай, якія стваралі актыўны рытм фасадаў (замак у Міры, царква ў Сынковічах Зэльвенскага раёна). У архітэктуры рэнесансу, барока, класіцызму развітыя арачна-калонныя кампазіцыі – аркады, што афармлялі галоўныя фасады будынкаў (палац у Рагачове, гандлёвыя рады ў Нясвіжы) або звязвалі асобныя карпусы палацавых будынкаў (палац у Ружанах Пружанскага раёна). Аркі былі галоўнымі кампазіцыйнымі элементамі брам (брама Ружанскага палаца). Арачная брама ў гонар знамянальных падзей ставілася асобна і называлася аркай трыумфальнай (на Беларусі былі ў Нясвіжы, Магілёве, Шклове для святочных урачыстасцяў). Арка шырока выкарыстоўвалася ў савецкай архітэктуры 1940–1950 гадоў у жылых і грамадскіх будынках. Арачныя кампазіцыі – у аснове стадыёна "Дынама" ў Мінску.

**Аркада** (ад франц.) – з часоў старажытнага Рыма шэраг аднолькавых па велічыні і абрысах арак, якія апіраюцца на слупы або калоны і ствараюць разам з імі рытмічны паслядоўны рад. Бываюць канструкцыйныя і дэкаратыўныя.

На Беларусі аркады пашырыліся з XVI стагоддзя ў архітэктуры стыляў рэнесансу, барока, класіцызму ў адкрытых галерэях гадлёвых радоў (у Пінску, Нясвіжы), палацаў (у Ружанах), гаспадарчых пабудоў (лямус брыгіцкага кляштара ў Гродне), а таксама як дэкаратыўны элемент – аркатура. У архітэктуры Беларусі савецкага перыяду аркады выкарыстоўваліся як асноўныя элементы кампазіцыі галоўнага ўвахода стадыёна "Дынама" ў Мінску, мастоў цераз Свіслач у Мінску і Заходнюю Дзвіну ў Віцебску.

**Аркатура** (ад ням.) – рытмічны рад дэкаратыўных несапраўдных арак на фасадах будынкаў або на сценах унутры памяшканняў.

Узнікла ў раманскай архітэктуры. На Беларусі вядома ў мураваных цэрквах XII ст. (Спаса-Ефрасінеўская царква ў Полацку і інш.). Пашырылася ў пабудовах стыляў готыкі і рэнесансу, у якіх выкарыстоўваліся спічастыя і круглыя аркі ў аздабленні сцен, вежаў, франтонаў (Лідскі, Мірскі замкі, Сынковіцкая царква-крэпасць і інш.).

**Аркабутан** (франц.) – адкрытая вонкавая паўарка. Перадае распор сцяны галоўнага нефа базілікальнага храма на контрфорсы, размешчаныя за межамі асноўнага аб'ёму будынка.

Сістэма аркабутана і асобна стаячых контрафорсаў давала магчымасць аблегчыць канструкцыю сцен, рабіць іх больш тонкімі, расчляняць вялікімі аконнымі праёмамі, павялічыць пралёт галоўнага нефа і паменшыць сячэнне слупоў, якія ўспрымаюць нагрузку скляпенняў, што рабіла інтэр'ер больш прасторным. Акрамя канструкцыйнай, аркабутаны адыгрываюць значную дэкаратыўную ролю ў архітэктуры будынка, ствараючы актыўны рытм яго бакавых фасадаў. Аркабутаны з'явіліся ў мураванай архітэктуры заходнееўрапейскай готыкі з XI стагоддзя. На Беларусі выкарыстанне аркабутана пашырылася галоўным чынам у канцы XIX – пачатку XX стагоддзя ў архітэктуры несапраўднай готыкі (Гервяцкі касцёл).



Аркбутан.

*(Працяг будзе.)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана па друку: 15.01. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 64.
Тыраж 1050.